Максім Танк

# Збор калосся

вершы

(1983—1988)

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1989

ББК 84Бел7
Т18

Чистое фольклорное звучание, обращение к истокам народной мудрости, стилевое совершенство сопряжены в творчестве народного поэта Белоруссии, лауреата Ленинской премии, Героя Социалистического Труда Максима Танка с пониманием поэзии как наивысшего проявления гражданственности.

Т $\frac{4702120202-127}{М 302(03)-89}$ 64—89

ISBN 5-340-00208-X



## Збор калосся

Хаця б не забыць, што
Даўно мінуў поўдзень
І час завяршаць
Збор калосся на полі.

Хаця б не забыць, што
Ноч не за гарамі,
І ўсім пажадаць
Добрага адпачынку.

Хаця б не забыць,
Калі заўтра пашчасціць
Убачыць світанне,
Падзякаваць сонцу,

Падзякаваць сонцу,
Што зноўку вярнула
Да любае працы —
Да збору калосся.

* * *

Кажуць,
Зоры ўсё знаюць
Пра лес і пра будучыню чалавека.
Скуль ім знаць,
Калі звесткі пра нас
Могуць толькі да іх даляцець
Праз мільёны гадоў светлавых.
Добра, што ёсць бліжэйшыя
Зоры ў нас,—
Пад якімі мы ўбачылі свет.
Пройдзем і палюбуемся
Разам на іх
І паслухаем,
Што нам прадкажуць.

## Малітва

З усіх малітваў, якія быццам
Удары лёсу адвесці могуць,
Я веру ў тую, што зараніцай
Спяваюць жытнія разлогі,

Што ў круг склікае нас, пабрацімаў,
Што гоіць раны, дае нам сілы,
Што спалучае з зямлёй, з Радзімай,
З яе нягаснучым небасхілам.

І я заўжды яе паўтараю
Перад нялёгкай ў жыцці патрэбай,
Калі працоўны дзень пачынаю,
Калі я ў рукі бяру кус хлеба.

* * *

О, не пакідай мяне, смех:
Ты нам дорыш светлае шчасце,
Звініш, як узветраны снег,
Бароніш ад суму-напасці,

Злучаеш далоні сяброў,
І грэеш у непагадзь ласкай,
І з твараў фальшывых багоў
Зрываеш бязлітасна маскі,

Бічуеш за кожны агрэх,
Ратуеш адісцін паблеклых...
О, не пакідай мяне, смех,
Ніколі, ні ў раі, ні ў пекле.

* * *

Пошум траў і лістоў, посвіст крыл кажаноў.
У запечку знаёмы накцюрн цвіркуноў.

Маладзік пачынае зажынкі ў палях,
І рыпіць Зорны Воз на цыганскіх шляхах.

Талакі камарынай плыве перазвон...
Чуйпы пешта з гадамі становіцца сон.

Часта будзіць трывога: як гэты спакой
Назаўжды зберагчы над калыскай людской?

І мне гэтай трывогі ніяк не прыспаць
І ніякімі чарамі не адагнаць.

## Табе

Абяцаў я калісьці табе
Падарыць усе мары і сны,
Усе скарбы і кветкі зямлі,
Салаўіныя ночы вясны.

І не знаю, хто тут вінават:
Ці то сам я, ці, можа, мой лёс,
Што табе я, сяброўка мая,
Толькі шэрыя будні прынёс,

Толькі безліч трывог і пакут,
Якіх нават не пералічыць.
І таму не асмелюся нат
Я ў цябе прабачэння прасіць.

Дай жа мне табе дапамагчы
Дроў прынесці, скрышыць качаны,
Малышоў-непасед панасіць
І паставіць у печ саганы,

А прысеўшы вячэраць за стол,
Аб нягодах забыцца на міг
І тваім спрацаваным рукам
Адпачыць у далонях маіх.

## Махтумкулі

Юбілей несмяротнага Махтумкулі.
І таму да яго гасцей з усёй зямлі
Пуцяводныя зоры на той [1] прывялі —
На вялікае свята Туркменіі.

Ён сардэчна сустрэў нас у Кара-Кала,
Дзе калісьці калыска паэта была
І дзе першая песня яго прагула
Над прасторамі роднай Туркменіі.

І дзівіліся мы: не крануў яго час,
Хоць ён быў і старэйшы сярод усіх нас,
У вачах маладосці агонь не пагас,
Зіхацеў яркім сонцам Туркменіі.

А калі ён — натхнёны свабоды пясняр —
Апусціў свае рукі на звонкі дутар,
Яго спеў залунаў вышэй гор, вышэй хмар
Над свабоднай шчаслівай Туркменіяй.

І я рад, што ў сяброў сваіх мог пагасціць,
Ад маіх беларускіх бароў, ніў, крыніц
Палымнеючых кветак вянок палажыць
Ля падножжа славы Туркменіі.

---

[1] Той *(туркм.)* — свята.

## Туркменскі дыван

Промні сонца, бліскавіц, вясёлак, зор
Ззяюць дывана асновай, на якой
Клапатлівая туркменка свой узор
Спрытна вяжа мігатлівыю рукой.

А вузельчык кожны — бліск яе вачэй,
Чырвань вуснаў, цемень высненая кос,
Каракумскі залаты загар плячэй,
Танец, песня, вызначаючыя лёс.

І такому дывану няма цаны,
Як аазісу сярод саланчакоў,
Як суквеццю ажыўляючай вясны,
Як віну, што п'ём за дружбу, за любоў.

## Чырвонай Лодзі

Лудзь, Лодзь, Лодка!
Я цябе бачыў заўсёды
Пад мачтамі
Фабрычных каміноў,
Пад развеянымі
ветразямі
дыму,
У якія заўсёды дзьмулі
Шалёныя штормы,
І ты плыла
Праз світанні стагоддзя,
Праз рыфы барыкад,
Праз бліскавіцы залпаў
І міражы утопій
Да сацыялізму...
Лудзь, Лодзь, Лодка!
Залячыўшы
Сляды куль фашысцкіх,
Крывавыя раны вайны,
Штурмуючы светлае заўтра,
Ты сёння
ў вясёлках
флагштокаў
Плывеш,
І, вітаючы польскіх сяброў,
Я, з надзеяй
На новыя стрэчы з табой,
Сігналю чырвонай гваздзікай:
— Папутнага ветру,
Лудзь, Лодзь, Лодка!

## У іх славу

Можа, і слушна
Айца Колбэ ў Рыме,
Які за свайго бліжняга
Прыняў смерць,
Абвясцілі святым.

Толькі думаю я
Аб мільёнах іншых
Савецкіх людзей,
Што жыццё ўратавалі
Ўсяго чалавецтва.
Яшчэ думаю я
І аб дрэвах,
Аб камянях руін
І набраклых
Крывёю ахвярнай
Акопах,
Што нас засланялі
Ад смерці.

Я іх тройчы свяцейшымі
Ўсіх абвясціў бы,
Запаліўшы ў іх славу
Нязгасныя знічы
На ўсіх кантынентах
Зямлі.

## Калі вы будзеце...

Калі вы будзеце, сябры,
Зноў разважаць
Аб зачацці бязгрэшным
Паэзіі,
Аб непарушнасці
Канонаў жанравых
І граматычных форм,
Аб тым, якімі мусяць быць
Элегіі, рамансы, оды,
Ці аб тым,
Якім памерам
Трэба пісаць вершы,—
Паклічце і мяне.
Бо як некалі
Маэстра Дунікоўскі гаварыў:
«Я ўжо чалавек стары
І хацеў бы
Памерці ад смеху».

## Па даўняй звычцы

Па даўняй звычцы,
Выходзячы з дому,
Кожны раз паглядаю на неба,
Быццам
Са студні гарадскога дварышча
Ці з цясніны вуліцы
Можна ўбачыць:
Што на небасхіле?
Вось і сягоння.
Не паспеў схавацца
Ад дажджу.
Стаю пад
Саламяным сваім капелюшом,
Быццам пад жытняй бабкай
На пількаўскай пожні.

* * *

Кожны знае,
Што нельга спяшацца
І нельга спазняцца
З сяўбой і ўборкай хлеба,
Бедаваць і радавацца,
Прыходзіць у госці
І на дыпламатычныя прыёмы.
І ўсё роўна чамусьці
То прадчасна,
То са спазненнем
Пераступаем
Парогі жыцця.

## Стагаванне

Па-рознаму можна
Стагі стагаваць:
І пры дапамозе
Капніцеляў і трактараў,
Толькі часта яны
І няроўна злягаюцца,
І ад дажджоў зацякаюць.

Найбольш былі ўдачнымі,
Помню, стагі,
Што з табой стагавалі.
Нам ледзь паспявалі
Пласты падаваць,
Як мы іх,
Ныраючы ў замець
Духмянага сена,
Так шчыра складалі,
Збівалі, таптані,
Што потым аж нылі
І рукі, і ногі,
Гарэлі засмяглыя вусны
І ты
Доўга з блузкі і кос
Вытрасала валошкі,
Рамонкі, мятліцу,
Мае пацалункі.
Мне часта і сёння
Стагі тыя сняцца
Пад небам і сонцам
Юнацтва.

* * *

Ля апаленага бліскавіцай камля,
Замаскіраваная пад колер былля,
Прытаілася яшчарка, а ля яе
Павук сетку на бабіна лета снуе.
У расе зззяе папараці парасон,
Пад якім сушыць крылы свае махаон.
У зязюліным лёне да шышкі прынік,
Ап'янелы ад пахаў лясных, баравік.
Я стаю ў нерашучасці, як мне тут быць:
Ці ў цудоўную гэту краіну ўступіць,
Ці яе абысці, абмінуць стараной,
Не парушыўшы гэты спрадвечны спакой?

## Экалогія

Як толькі ў маленстве
Сяк-так навучымся хадзіць,
На гэтым, звычайна,
І канчаецца наша
Адукацыя.

А мы, прызнацца,
Хоць і мінулі
Тысячагоддзі,
І да гэтага часу
Не ўмеем хадзіць
Па зямлі
Так, як дні і ночы,
Звяры і птушкі,
Вятры і дажджы.

Няўжо не бачыце
Як яе здратавалі
Вытапталі,
Пакалечылі?

А яшчэ збіраемся
Такія ж сляды
Пакінуць
І на іншых планетах.

* * *

Хіба няма нічога цяжэйшага,
Як час.
Бачыў не раз,
Як пад цяжарам яго
Згіналіся плечы атлантаў, багоў.

А некалі ж мне ён здаваўся — як пух,
Як цень.
І толькі пазней — як вінтоўка, як плуг,
Як адказнасць за заўтрашні дзень.

Сягоння, каб груз гадоў несці
Жыццёвай дарогай,
Бяру то кавеньку ў рукі,
То клічу на дапамогу
Ўнука.

## Пра адпушчэнне грахоў

З даўніх свят
Помню, як я чакаў
І не мог дачакацца
Вялікадня.
І не толькі таму, што тады
Каля студні вярба
Прыбіралася ў коцікі,
Прылятапі буслы
Ад бяды, перуноў
Асланяць
Сваймі крыламі хату,
Басаnож усе з жабамі
Лужы абследаваў.
І звінеў з зорамі
Валачобнікаў спеў
Пра вясну пра красну
На ўвесь свет.

А таму, што тады
За разбітую шыбіну нават,
За штаны, што падзёр,
У абнімкі гуляючы з цюцькам,
За нявыўчаны ўрок у чытанцы,
За сякеру, што вышчарбіў недзе,
І за сцягнуты
Ў бабкі сваёй памазок,—
Адпускалі мае ўсе грахі
І мае правіненні.

## Хвоя

Калі Вялікі Чарадзей
Ўсім дрэвам раздаваў уборы,
Размаляваныя вясной
Ў зеленалістыя узоры,

Хваінцы, спозненай, адной
Лістоты весняй не хапіла.
Былі іголкі. І яна
Галінкі імі ўхарашыла.

І жартавалі з яе ўсе,
Што ўся калючая такая,
Што нікудышні ўбор яе
Ім толькі сонца зацяняе.

Але за днямі дні ішлі.
Насталі восенькія слоты.
І пачала з дрэў ападаць
Пераждаўцелая лістота.

І толькі хвоя як была,
Так і засталася зялёнай.
Для дрэў усіх ад навальніц
Стаіць надзейнаю заслонай.

Пад ёй і заяц грэе нос,
Калі яму зімою горка;
На ёй — савы-начніцы трон
І шышкі лускае вавёрка.

* * *

Здаецца, перагаварыў з усімі
Сябрамі, знаёмымі і незнаёмымі,

З дрэвамі, звярамі, птушкамі,
З дажджамі, снягамі, вятрамі,

З дарогамі, рэкамі, што мог бы
І кропку пад інтэрв'ю паставіць,

Ды ўспомніў, што не закончыў яшчэ
Гутаркі з самім сабой.

## Жанчына

Калі закончыў бог
Сваю работу
І збіраўся ўжо на адпачынак,
Да яго прыйшоў
Адам са скаргай,
Што сонца зусім не грэе,
Вада — не ўталяе смагі,
Хлеб — горкі,
Птушкі — безгалосыя,
Травы — чэрствыя,
Кветкі — недухмяныя,
Дні — сумныя,
Ночы — бяссонныя.
І бог
Стварыў жанчыну.
І толькі дзякуючы ёй
Стала можна жыць
На зямлі.

## Асеннім зарападам

Глядзі, глядзі!
Зоры ізноў ападаюць
У сцеў жураўліны.
Мо пойдзем шукаць іх?
Ці ж не дамаўляліся
Імі ўпрыгожыць
Пярсцёнак вясельны твой
І завушніцы?

## І як тут не наракаць

Мы ўсё яшчэ захапляемся
Казкамі пушч, у якіх
Замест цецерукоў і зязюль
Даўно мотапілы з сякерамі
Гулка такуюць,
Кукуюць.

Мы ўсё яшчэ расчульваемся
Песнямі
Даўно перасмяглых крыніц,
Якіх толькі рэха звініць
У фальклорных ансамблях.

Мы ўсё яшчэ не налюбуемся
Даўнімі ўборамі,
Якія ў век робаў,
Скафандраў
І джынсаў
Красуюцца толькі
Сярод сувеніраў.

Мы ўсё яшчэ хлеб апяваем
Дамашні,
На лісці кляновым,
Хаця і забыліся,
Як выпякаюць яго
Ў печах музейных.
І як тут не наракаць
На адставанне
Літаратуры!

* * *

Адлятаюць гады жураўамі,
Бы ў сне.
Завяршаць свае справы
Пара ўжо і мне,

Яшчэ раз пабываць
На прывалах былых,
Пілігрымам прайсці
Па мясцінах святых.

У Міхайлаўскім
І на Чарнечай гары,
У купалаўскай Вязынцы
І ў тым бары,

Дзе стаіць курганоў
Легендарная раць,
А над ёй —
Сасннякі маладыя
шумяць.

Адлятаюць гады...
І хоць знаю,
што зноў
Ім не суджана
Новай вярнуцца вясной,

Усё ж я не магу
Шчырым словам сваім
На расстайных шляхах
Не падзякаваць ім,

Што так шчодры былі
І на радасць, і боль,
На сяброў баявых,
На любоў і хлеб-соль.

* * *

Вось ужо
Адным з вас
Уручылі пашпарты,
Другім — атэстаты сталасці,
Трэцім — дыпломы.

Дык смялей выходзьце
На будаўнічыя пляцоўкі,
На перадавыя пазіцыі,
На прасторы палёў,
На ўдарныя рубяжы
І міжзорныя трасы,
Каб хутчэй сталі явай
Усе казкі дзяцінства,
Усе мары і сны,
Запаветы бацькоў
І надзеі Радзімы.

## Паштоўка

Безліч кіламетраў
Франтавога грому,
Штармавога ветру,
Не знаючы стомы,
Па шляхах зямлі
Мы з табой прайшлі,
Ад нягодаў зімніх
На начных прывалах
Шынялём адным нас
Доля накрывала.
З конаўкі адной нас
Частавала гойна,
Раны нам гаіла,
Песнямі здружыла.
І таму ні леты,
Ні ліхія сілы
Нашай дружбы гэтай
Не змаглі асіліць.
І я рады, братка,
Што ў сваёй краіне
Ў спадчыну нашчадкам
Мы яе пакінем.

## Дзьмухаўцы

Зямля ўся ў белі дзьмухаўцоў,
Перацвітаючых сукведцяў.
У гэты час, хто б ні прайшоў,
Хто б ні прабег — след застаецца,
Хто б ні зрабіў найменшы рух
Ці не шапнуў каму «кахаю»,
Як палахлівы кветак пух,
Пад сонца самае ўзлятае.

## Садзіце лясы!

Садзіце лясы! Садзіце лясы
Ва ўсе гадавіны, прыгоды, часы!

І саджанцам, як немаўлятам, зялёным
Давайце на хрэсьбінах гэтых імёны —

Імёны сваіх незабыўных бацькоў,
Імёны каханых, імёны сяброў.

Імёны падзей, што палаюць зарою,
Імёны авеяных славай герояў

І рознапляменных народаў, дзяцей,
Імёны сузор'яў і нашых надзей.

Каб дрэвы і ранняй і позняй парой
Заўсёды шумелі над мірнай зямлёй.

# Перад Новым годам

Гавораць, каб радасным быў
Новы год,
Гасцінна яго
Трэба стрэць ля варот,

За стол
На чырвоным куту пасадзіць,
Шампанскага
Поўную чарку наліць.

І я так не раз
Сустракаў Новы год,
Ды толькі не меншала
У мяне турбот.

І сёння, пакуль за яго
Чарку ўзняць,
На што будзе шчодры,
Хацеў бы я знаць:

На хлебныя
Ці неўраджайныя дні,
На мірныя
Ці не спакойныя сны,

На здзяйсненне
Ці марнатраўства надзей,
На слёзы,
пакуты
Ці песні людзей?..

Снег кружыць, снег кружыць.
Стаю ля варот.
Якія дары нам
Нясеш, Новы год?

Калі дрэнныя —
Лепш іх кінь у пургу,
Калі ж добрыя —
Несці дапамогу.

## Гідрастанцыя імя У. І. Леніна

Прымі паклон мой, Енісей-батыр,
Што, як мячом, рассек нябёсаў шыр,
Гранітны шчыт завоблачных Саян,
Заслон тайгі і тундры акіян.
Хто, непакорнага, угаварыў,
Каб дзень і ноч турбіны ты круціў?
— У ссылцы быў тут Чалавек, з якім
Мяне злучыла дружба на вякі.
Ён сонцам волі марыў азарыць
Мае затокі, тоні і віры,
І здзейсніліся мары ўсе яго:
Глядзі, якое зарава кругом!

## Салют Перамогі

Многа салютаў прагрукала ў сэрцы.
Можа, пашчасціць пачуць мне і болей,
Хоць усё менш і ўсё менш застаецца
Нас, ветэранаў апошняга бою.

Нас, што прайшлі праз свінцовыя ліўні
І цішынёй веснавою прыняты,
Бачылі першы салют незабыўны,
Мірныя чулі яго перакаты.

Можа, не столькі было ў ім, як сёння,
І феерверкаў, і ўсмешак шчаслівых,
Бо яшчэ раны балелі бяссонна,
Дым засцілаў спапялелыя нівы.

Маці чакалі ў пакутлівых муках
Родных сыноў, сваіх блізкіх звароту...
І ўсё ж салют гэты быў запарукай
Сённяшніх нашых касмічных палётаў.

Сённяшніх вырашчаных ураджаяў,
Песень застольных, акрыленых, шчырых,
Неперамажнасці роднага краю
І непахіснасці дружбы і міру.

Вечнасцю Вечны агонь палыхае.
І ў зіхаценні ягоным чырвоным,
Быццам бы кроў з-пад бінтоў,
выступаюць
На абелісках герояў імёны.

Кожнага з іх помніць маці-Радзіма.
І, гром салюта пачуўшы, мы знаем:
Гэта яна зноў вітаецца з імі,
На пераклічцы іх зноў аклікае.

* * *

* * *

Дрэнна,
Калі згасне зрок,
Бо тады свет наўкольны змрачнее.
Дрэнна,
Калі глухне слых
І не чуеш, галосіць хто,
А хто смяецца.
Дрэнна,
Калі
З сэрца выветрыцца ўсё сумленне,
Бо яно не вяртаецца зноў.
А найгорш,
Калі розум пакіне,
Бо тады ў дзверы ломяцца
Злыбеды ўсе.

## Ізноў расцвітаюць лугі

Ізноў расцвітаюць
Лугі, на якіх
Калышуцца смолка,
Іван-чай, сівец,
Дрымотнік, рамонак,
Аўсюг, васількі,
Прывабнік, крываўнік,
Чабор і званец.

Не раз ліхалеццем,
Блакаднай парой
З вясёлкавых гэтых
Суквеццяў і траў
Лячыў нашы раны
Гаючы настой
І нат да жыцця
З таго свету вяртаў.

Таму і сягоння,
Калі боль тых дзён
У сэрцы маім
Адклікаецца зноў,
Вяртаюся я
Ў перашум, перазвон
Наднёманскіх,
Наднарачанскіх лугоў.

## Авеяныя славай

Хоць у пахаванках
Гаворыцца: «Па́лі
У баях за Радзіму
Сваю гераічна...»,
Аб чым сведчаць
Надпісы на п'едэсталах,
Жалобныя даты,
Нязгасныя знічы,—

Ды толькі
Таварышы, аднапалчане,
Якія калісьці
Прайшлі разам з імі
Праз пекла вайны
І ўсе выпрабаванні,
Заўсёды іх лічаць
І бачаць жывымі.

Жывымі, авеянымі
Вечнай славай,
Байцамі нязменнымі
На сваёй варце,
Такімі ж
Дваццацігадовымі нават,
Якімі жагналі
Іх некалі маці.

А тое, што бронзавыя
Шынялі ў іх
І боты, якія

Не ведаюць зносу,—
Ім трэба, каб крочыць
Праз буры і ліўні
Дарогай бяссмерця,
Салдацкага лёсу.

## На безыменнай вышыні

«Тут спяць тыя,
Што галоднаму аддавалі
Апошні сухар,
Сасмягламу —
Апошні глыток вады,
Голаму —
Апошнюю кашулю,
Змерзламу —
Апошнюю цыгарку.

І толькі
Апошні патрон
Пакідалі сабе».

* * *

Над магілаю героя
Цвіце жыта маладое.

Ды яму як не цвісці тут
Над забітым — незабытым,

Калі матухна старая
Дол слязамі палівае,

Калі зязюлечка-жонка
Будзіць суджанага звонка,

Калі помняць бацьку дзеці,
А над краем сонца свеціць.

## Аб перажытым

Аб перажытым
Заўсёды расказваюць
Нашчадкі.

А нам, аслеплым ад агню,
Аглухлым ад грымот
І анямелым ад пакут вайны,
Знаць, не знайсці
Патрэбных слоў.

А мо іх і няма.
Бо з усіх моў,
Існуючых на свеце,
Ніводная не здольна перадаць
Ні горычы руін і папялішчаў,
Ні цішыні магіл,
Ні гора, ні пакут мільёнаў,
Ні велічы расплаты справядлівай
І Перамогі нашай.

## Планшэт

Стары планшэт. Чаго ёнварты?
Сабраўся выкінуць, ды ў ім
Знайшоў нечаканую карту
І свой блакнот з пісьмом тваім.

На карце вызначаны стрэлы
Напрамкаў і баёў былых.
Кружкі пасёлкаў абгарэлых —
Прыпынкаў нашых франтавых.

Між выцвілых лісткоў блакнота —
Дзесятак розных адрасоў
І неразборлівае фота
Маіх аднапалчан-сяброў.

Пісьмо... Чытаю яго зноўку,
Як перамогі запавет,
На ім ты абвяла алоўкам
Сыноўняй босай ножкі след.

Мо эпізод і малазначны
Сярод тых спраў, падзей, дарог.
Стары планшэт... Я табе ўдзячны,
Што гэта ўсё ты прыбярог.

* * *

Прасвечвалі рэнтгенамі,
Правяралі кардыёграфамі,
Праслухоўвалі,
Падлічвалі ўдары пульсу.
А тое,
Што людскіх клапот і спраў
Нашу асколкі ў сэрцы,
Так і не выявілі.

А гэта яны заўсёды
На змену пагоды,
Прачнуўшыся, ныюць.

## На рыбалцы

Стары дуб закінуў
У тоні ўспамінаў ракі
Свае вуды-сукі.
— Клюе! Падсякай! Цягні! —
Крычу я,
Забыўшы, што ён
Ужо многа год
Ад ваенных грымот
Аглухлы,
Нічога не чуе.

## Дым без агню

Няўжо ізноў зямля палае!
Адкуль жа ўзняўся дым барвовы,
Заслаўшы ўсё да небакраю!
Ах, гэта — жыта расцвітае
У перазвоне жаўруковым,
Аж каласы пад ветрам гнуцца.

Вось ты і вер людской пагудцы,
Што без агню дыму не бывае.

* * *

Каб на кожным слове
Ставілі таўро праўды,

Як ставім на рэчах
Знак якасці,
На дарагіх металах —
Пробу,

Напэўна,
Лягчэй і святлей
Нам жылося б на свеце.

# Сведка

Калі Старога свету
Я злачынствы раскрываю,
Яго апалагеты
Стараюцца давесці
Зноў і зноў,
Што я не мог іх бачыць
І вырвацца жывым
З іх кіпцюроў.

Але я вырваўся жывым.
І сведчу як паэт,
Якім з'яўляешся ты
Ненавісным,
Стары свет.

* * *

Не карай мяне, лёс, глухатой,
Той, што перашкаджае пачуць,
Як світальнаії вясновай парой
Жураўы на радзіму лятуць.

Як хто кліча мяне памагчы
Або грукае ў дзверы мае,
Як самотны хто плача ўначы
Ці ў застоллі сяброўскім пяе.

Як шумяць-каласяцца жыты,
Як звініць зарапад над зямлёй.
Шапацяць і дажджы, і лісты —
Не карай мяне, лёс, глухатой!

* * *

Па тым, як некаторыя
Ідуць у дождж,
Можна ўгадаць,
Куды спяшаюцца.

А па тым,
Як абмінаюць
Ці фарсіруюць лужы, гразь,
Можна сказаць,
Хто ідзе
У купленым за свае грошы,
А хто — у казённым
Ці дармавым абутку.

## Валацугі

Цень і я.
Брыдзём дарогай,
Стомленыя два валацугі.
То ён мяне
Цягне ў свой бок,
То я — яго.
Не помню ўжо,
Калі і за віну якую
Скавалі разам нас.

## Пра іншапланецян

У тое, што нехта —
Ці бог, ці чорт —
Сочыць за жыццём людзей,
Я не веру.

Першы — даўно ад горычы
Пакончыў бы з сабой,
Другі — ад радасці
І смеху захлынуўся б.

Але ж не можа быць
Самотнаю Зямля,
Самотнымі ні ты, ні я
Ў сусвеце.

Не толькі мы, відаць,
У пошуках жывых істот
Па космасе блукаем.
Бо я часта
Адчуваю погляд
Іншапланецян.

Магчыма, і яны
Хацелі б нас наведаць.
Але як прызямліцца ім,
Калі куды ні глянь —

Акопы, бліндажы,
Калючыя засекі,
Драконавы клыкі
Гармат, ракет.

## Пасля снегападу

Ноччу, ціха падкраўшыся,
Выпаў снег.
Раніцой прачнуліся дрэвы
Ўсе ў казачнай белі
І не пазнаюць самі сябе.
— Ты хто? —
Пытае бяроза ў сасны.
— Ты хто? —
Пытае асіна ў алешыны.
— Ты хто?..

І так цэлы дзень
Чую шэпт іх і шорах
У нашых прысадах.

## Пясочны гадзіннік

Задаволены мой сусед,
Які памяняў са мной
Свой пясочны гадзіннік
На механічны будзільнік,
Бо перастаў спазняцца
На стрэчы, на працу.

І я — у выйгрышы:
Часта слухаю цяпер,
Аб чым шэпчуцца тыя,
Што сталі пяском,
А забуду яго перавярнуць —
Мой час на нейкі міг
Спыняецца, даўжэе.

## Дождж Стафа

Адкуль мне знаёмы
Дождж гэты ахрыплы,
Яго галашэнні,
Нястрымныя ўсхліпы,

Яго звон у шыбы
Нязмоўчны, нязменны!
Няўжо гэта Стафа
Дождж даўні, асенні,

Які са мной брыў
Па этапнай дарозе
Парой беспрасветнай
У стоме-знямозе?

Няўжо ён сягоння
Прыпомніў былое?
Пайду. Можа, неяк
Яго супакою.

* * *

Оду Зеўсу аднойчы я склаў.
Той, расшчодрыўшыся, загадаў
Лаўрэатам мяне абвясціць.
Ды ўзмаліўся я, каб пры жыцці
Мне апошніх сяброў не згубіць
І пазней меціь святы супакой,
Не карацць мяне ласкай такой.

## Барана

Гэта была ўжо даўно
Адпраўленая на пенсію
Дзедаўская барана,
З пашчапанымі
Ветрам і дажджамі аглоблямі,
З пашчарбанымі
На камянях зубамі,
І нажыўшая дыхавіцу
Ад пылу,
І глухату — ад панукання.
Куды яе?
Падарылі буслам,
Якія цяпер кожнаю вясною
Пад зорны пасеў
Барануюць неба
Над нашай хатай.

* * *

Здаецца, ўсё рабіў.
Што завяшчалі мне
Сузор'і, птушкі,
Дрэвы і рачаліны,

Каб дрэнныя варожбы
Не збываліся,
А добрыя — заўжды
Ажыццяўляліся.

Жыццё мінае.
Вецер. Дождж. Бяссонніца.
А я чакаю:
Калі ж гэта споўніцца?

* * *

Калі верыць сляпым,
І я — сляпы;
Калі верыць глухім,
І я — глухі;
Калі верыць кульгавым,
І я — кульгавы;
Калі верыць гарбатым,
І я — гарбаты.

Як жа пазнаць
Мне самога сябе,
Скажы ты, славуты
Мудрэц старажытны?

## У лістапад

Бацька прынёс
Вёдры, поўныя восені,
І кажа: — Слата, туман.

Сырадой раніцы
Маці перападзіла
І кажа: — Золь. Імжа.

А мне здаецца,
Што гэта Верасень
Са сваімі сябрамі
Неганісабакузхаты,
Даждахлюпам і Гразяшлёпам
Зацеплілі нашу лазню
І хвошчуцца венікамі прысад,
Толькі па́ра клубіцца,
Толькі пырскі лятуць
І лістота ўсцілае зямлю.

## Небыліцы
## пра зіму

Не раз дамаўляліся
Мядзведзь, барсук і вожык
Наглядзець на зімы прыход.
Бо чулі,
Які прыгожы
На рэках лёд,
На палях — снег,
На дрэвах — іней.
Ды, як на грэх,
Схаваўшыся ад восеньскай стыні
У цёплыя логвішчы-норы,
Пад лістападаўскі перазвон
Зораў,
Кожны раз ачмурыць
Непрабудны іх сон,
І ніяк не ўдаецца
З зімою сустрэцца.

І таму
Нат не верыцца ім у зіму,
Пра якую
Расказваюць небыліцы
Вароны і зайцы,
Ваўкі і лісіцы.

## Памяці
## Янкі Купалы

Калі пакінуў нас
Кароль паэтаў,
Надоўга наш
Асірацеў палетак.

У пушчах змоўклі
Векавыя дрэвы,
Прыціхлі ўсе
Птушыныя напевы...

І сёння нат хто скажа,
Сцяўшы боль:
— Памёр Кароль!
Няхай жыве Кароль!!

* * *

Калісьці, што б ні пачынаў
Быў на свеце:
Трымаць у руках плуг,
Іграць на жалейцы,
Хлеб кроіць, пад зрубы
Падваліны класці,
Імкнуцца за марамі
Ўдалечыню,
У бурах, завеях
Шукаць сваё шчасце,—
Лічыў, пачынаю
Ўсё я ўпершыню.

А сёння мяне
Непакоіць, трывожыць.
Што нат гэта песня
Апошняй быць можа.

## Метро

Хоць у розных славутасцей,
Нават у Зораў Крамлёўскіх,
У Волгі, Янцзы, Місісіпі,
У Везувія і Фудзіямы
Я браў інтэрв'ю —
А тут разгубіўся:
З чаго ж бы бяседу пачаць
Мне з Героем праслаўленым —
Мінскам!

Можа, з мінуўшчыны даўняй,
Калі на Нямізе
Звінелі мячы
І Баянавы струны,
Ці з Кастрычніцкіх дзён,
Калі ён барыкады ўздымаў,
Ці з падзей векапомных
Айчыннай вайны,
Калі з ворагам лютым змагаўся,
А потым — з руін паўставаў!

Ды ён сам падказаў мне
Бяседы зачын:
— Сягоння адкрыў я метро...

І павёў ён мяне
Па падземных палацах і трасах.
Гэту нашу вандроўку
Мне век не забыць,
Мне, у чыёй памяці

Ўсё яшчэ чуецца шоргат
Стомленых ног пешаходаў,
Дых змораннай конкі,
Звон першых трамваяў.

Я па казачнай лесвіцы з ім
Апускаўся
То ў нетры зямныя,
Дзе ніводзін з жывых
Яшчэ не гасцяваў,
То ўздымаўся
Да сонц электрычных,
Трыумфальных вясёлкавых арак,
Мармуровых скляпенняў,
То імчаў з хуткасцю бліскавіцы
У яшчэ невядомы мне свет.

Як мужык,
Што не верыць вачам,
Да ўсяго дакрануўся рукамі,
Сваімі вуснамі, сэрцам,
Каб і іх мець за сведак
Праўдзівасці песні маёй,
Складзенай ў гонар Мінска і тых,
Хто змог здзейсніць
І вычараваць гэту яву.

## Маўчанне

Маўчанне
Ніколі не было
І не будзе золатам:
Яно — або
У шмат разоў даражэйшае.
Або — нічога не вартае.

* * *

Я сам вінават,
Што трапіў да цябе
Ў палон, Паэзія,
Што ў свой час,
Як Адысеевы валацугі,
Не заляпіў свае вушы воскам,
Каб не чуць твой спеў сірэны,
А калі ў адведзіны прыйшла,
Не змог, як Дыяген,
Сказаць уладару:
«Не засланяй мне сонца!»

# Скарга ў міліцыю

Прашу спыніць хуліганства
Тэлефона-аўтамата,
Што ў алеі Закаханых,
Ля фантана.
У мінулую нядзелю,
Калі сяброўцы
Я сваёй званіў,
Ён першы выцыганіў
У мяне
Амаль усе манеты,
А потым,
Пэўна, з рэўнасці,
Прыкінуўся глухім,
У выніку чаго
Сарваў маю сустрэчу,
Прапалі білеты ў тэатр,
І зараз я не ўпэўнены
Ў сваёй будучыні.

## Прышыўка гузіка

Яна смяялася,
Што я няўмела
Да кашулі
Прышываю гузік.

Адабрала
З маіх рук іголку
І прымацавала спрытна
Аж да зносу.

Толькі калі падцягвалася
На дыбачкі,
Каб адкусіць нітку,
І сустрэліся
Неспадзявана
Нашы вусны —
Зямля ўцякла
З-пад нашых ног.

## На астранамічную тэму

Знаць, мала
Сярод астраномаў
Было закаханых,
Што панадавалі
Сузор'ям імёны:
Мядзведзіца,
Рак,
Змяя,
Казярог,
Леў,
Дракон,
Скарпіён...

Я ж імя тваё берагу
Для яшчэ не адкрытых
Сузор'яў,
Якіх толькі каардынаты
Мне сёння вядомы:
Між сэрцам тваім і маім,
Між быццём маім
І небыццём у сусвеце.

## Жыта

Помніш,
Як прарастала,
Кусцілася рунь,
Прыкрываючы скібы зямлі,
Каляні ды заечыя вушы,
А потым
Цягнулася ўгарту да сонца,
Да нашых
З табой спадзяванняў!

Пакланімся ж нізка
Снапу залацістага жыта,
Што сватам
Калісь красаваўся
На нашым вяселлі.

* * *

Заціхша над шляхамі палявымі.
Зашкліла лужы восеньская стынь.
Над хатамі — сівыя птушкі дыму
Ўздымаюцца, плывуць удалячынь.

Мо ты яшчэ наведаеш? Змярканнем
Запальваю табе агні стажар.
Насталі дні, скупыя на спатканні,
А на расстанні — шчодрыя, на жаль.

* * *

Не адбірайце
Таямніц усіх
У зор, аблокаў,
Кветак палявых,

У весніх ранкаў,
Залатых змярканняў,
У першых пацалункаў
І прызнанняў,

Грахоў — у грэшных,
Святасці — ў святых,
Каб свет не стаў
І нудным, і пустым.

## Смарчкі

З усіх лесавікоў-грыбоў
Найболей радуюцца
Веснавому неразвону-шуму
Смарчкі.

Пакуль там іншыя
Збяруцца, тугадумы,
Яны выскакваюць першыя
З-пад ядлаўцоў,
З-пад цёплых сховаў
Дзеразы, імхоў.

Духмяныя. Мурзатыя.
Рудыя ад загару.
З усмешкай крохкай
На маршчынах твару.

Таму, хто іх збіраў,
Як я, на зараніцы,
Яны вясноваю парой
Заўсёды будуць сніцца.

## Якім

Быў сабраўся паміраць Якім —
Надламалі старасць ды гарачка.
І прыбегла развітацца з ім
Цётка Тэкля — прысяжная плачка.

Пачала, галосячы, прасіць,
Каб ён на тым свеце пераведаў
Яе маці Домку і залвіц,
Мужа Япку і Ярылу-дзеда.

Каб усім аднасяльчанам ён,
Каго ў пекла ці ў раю сустрэне,
Не забыўся перадаць паклон,
Пра зямныя расказаць здарэнні:

Што Ганулька замужам, яна ж
Адзінокай век свой дажывае,
Нешта запазнілася вясна,
Ацялілася яе Рабая...

Тут Якіма, знаць, злосць узяла.
Кажа Тэклі: — Не рабіла б тлуму.
Столькі ты наказаў мне дала,
Што я ўжо і паміраць раздумаў.

# З даўніх прыказак

З даўніх прыказак,
Прымавак, перасцярог,
Марнатраўца, я пекалькі
Перлаў збярог:

«Будзь далей
Ад нядобразычлівых людзей,
Ад мясцін, дзе не чуць
Песень, смеху дзяцей.

Ад дарог, скручаных,
Як гадзюкі, ў вузлы,
Ад варот з надпісамі:
«Тут сабака злы».

Ад сябрыны, дзе рэй
Водзяць зайздрасць і злосць,
Ад застолля, у якім
Ты — няпрошаны госць,

Будзь далей...» Толькі я
Не ўсцярогся ў жыцці
Небяспекі і злыбеды
Ўсе абысці.

Ад якіх — адчуваю я —
З цягам гадоў
Усё больш застаецца
На сэрцы шрамоў.

## Вясенні канцэрт

Не было суладдзя ў песнях,
Покуль бусел рэй не ўзяў,
Покуль сонца — бубен весні —
З клёкатам не прыпадняў.

І тады пайшла капэла:
Заліліся жаўрукі,
На ўсе галасы запелі
Жабы, кані, кулікі.

Ад іх чулага піяна,
Гулкага фартысіма
Ажно гром неспадзявана
Праграмеў: «Бравісіма!»

А калі і дождж прыўдарыў,
Нестрымана паплылі
Слёзы радасці па твары
Ажываючай зямлі.

* * *

Чамусьці праз далеч
Мінулых гадоў
Вяртаюся часта
Да родных дуброў:
Пагоркаў, рачулак,
Сцяжынак і ніў,
Як быццам там нешта
Калісьці забыў,
А што — і самому
Мне не прыгадаць,
І ўжо тых няма,
У каго мог бы спытаць.

# Калі

Калі знаў поту жар і пах,
Груз абавязкаў на плячах,

І чуў світальнаю парой
Звон жаваранка над сабой,

І верыў, што заўжды ідзе
На змену ночы новы дзень,

І меў каму «Здароў!» сказаць,
На адыходзе перадаць

Свой плуг са зброяй баявой
У рукі змены маладой,—

Лічы, што недарма прайшлі
Твае гасцінцы на зямлі.

* * *

Заўжды, ад'язджаючы з дому,
Знаходзіў прычыны марудзіць:
То трэба агледзець было мне
Застрэшшы, гарышчы, аруды,
Праверыць падковы Гнядога,
І дзёгцем падмазаць калёсы,
І з кнігаўкамі развітацца
На пількаўскіх луках і плёсах.

Затое, калі я збіраўся
Аднекуль дадому вяртацца,
Адразу зрываўся і бег я
Да першай з чыгуначных станцый.
Схапіўшы ў дарогу кус хлеба
І радасць вяртання ў ахапку,
Як сёння, забыўшы з паспеху
Свой кій падарожны і шапку.

## Настольнік

Кожны раз, калі матчын настольнік
Засцілаюць — працёрцы локцямі,
Сям-там зацыраваны,— ізноўку
Бачу я сваіх блізкіх, знаёмых,
Хто на ім кроіў хлеб, нават чую,
З сёрбаннем буракоў ці заціркі,
Гутарку іх пра даўнія справы,
Пра якія ніхто ўжо не помніць.

Вось чаму не спяшу я ўставаць з-за стала,
На якім бачу матчын настольнік.

## Рана буджуся

Рана буджуся, каб досвіткам шэрым
Не прапусціць мне, як сонца ўстае.
Божа, чаму ты так скупа адмераў
Часу на розныя справы мае.

Падгадаваць яшчэ трэба мне ўнукаў,
Хоць яшчэ раз абысці родны край,
Безліч хрысцін і вяселляў адгрукаць,
Вырай правесці, сабраць ураджай.

Я яшчэ мушу наведаць краіны,
Дзе за свабоду браты вядуць бой,
З песняй сваёй і ў руках з карабінам
Разам быць з імі на перадавой.

Бо не хацеў бы, каб нейкі прахожы,
Пераступіўшы магілу, сказаў:
— Тут спіць гультай нікудышны, нягожы,
Што легкадумна жыццё змарнаваў.

## Мы ў партыю ўступілі

Мы ў партыю ўступілі,
Каб свет не ведаў слёз,
Пакутаў і насілля,
Не панаваў злы лёс.

Каб войны і нягоды
Не нішчылі зямлю,
Ядналіся народы
У братэрскую сям'ю.

Каб горда і высока
Палаў свабоды сцяг...
Хоць знали, што нялёгкі
Наш будзе гэты шлях,

Што давядзецца, можа,
Нямала перажыць,
Агонь байніц варожых
Не раз грудзьмі гасіць.

Ды толькі шляхам гэтым —
Адзіным у жыцці —
Да запаветнай мэты
Нам суджана дайсці.

## Радзіма

Ты ў кожнага, помню, пытала
Ў часіну смяротнай трывогі:
— Ці ўсё ты зрабіў, мой сыне,
На фронце для перамогі?

Калі адгрымелі салюты,
Ізноў у мяне ты пытала:
— Ці ўсё ты зрабіў, каб з руінаў
І папялішчаў паўстала!

Мінулі гады. Зноў пытаеш,
У вочы мне гледзячы шчыра:
— Ці ўсе ты засеяў акопы,
Ці ўсё ты зрабіў для міру?

Ну, што я скажу, Радзіма?
Хай лепш за мяне сягоння
Адкажуць мой плуг і вінтоўка,
Мае мазалі на далонях.

* * *

Калі ў палях засерабрыцца іней,
І вырай адляціць удалячынь,
І вогнішча апошняе астыне,
Адно тлець зоры будуць уначы,—
Я і тады ў вандроўцы беззваротнай
Сябе не буду адчуваць самотным.
Бо сярод зор знаёмых ёсць нямала,
Якім я давяраў палёты дум,
Сваё жыццё на горных перавалах,
І сёння з імі гутарку вяду.
І дамаўляюся аб новых стрэчах
Ці на зямным, ці дзесь на Шляху Млечным.

## Кожны год

Кожны год,
У дзень,
Калі змоўклі гарматы,
Мы сустракаемся, ветэраны,
У цэнтральным скверы
Нашага горада,
На скрыжаваннях сваіх успамінаў.
Толькі з кожным годам
Усё менш і менш
Нас прыходзіць
На гэту сустрэчу.

Магчыма, дачасна
Паверылі мы
Ў цішыню.

## Знойдзены...

Знойдзены:
Невядомая карціна Рафаэля...
Невядомая партытура Бетховена...
Невядомыя страфы Пушкіна...
А на папялішчы купалаўскай хаты —
Яго жалейка...

Нічога дзіўнага!
Каму невядома, што яны жывуць
І твораць вечна!

## Даваенны габелен

Хоць ужо даўно няма гэтых дрэў,
А я ўсё стаю ў іх зелені;
Хоць ужо даўно няма гэтых птушак,
А я з захапленнем сачу за іх палётам;
Хоць ужо даўно высах гэты ручай,
А я, прыпаўшы да яго, паталяю смагу;
Хоць вайна спапяліла гэта поле,
А я ўсё чую шум яго каласоў,
Звон сярпоў, песню жней.

## Даруйце

Даруйце, што непакою,
Бо, калі чакаю вас,
Не магу дачакацца,
Калі гляджу на вас,
Не магу наглядзецца,
Калі слухаю вас,
Не магу наслухацца,
Калі сню вас,
Шкадую, што сон мой —
Не вечны.

* * *

Пытаешся:
— Чаму сумны?

А як не быць
Сумнаму,
Калі ідзе дождж
І парасонам
Засланяеш вочы,
Калі вуліца,
Якой праводжу,
Такая кароткая,
Калі на расстанні
Не мне, а ветру
Дазваляеш сябе
Абняць..

## Ты не раўнуй

Ты не раўнуй і не крыўдуй,
Што я не раз табе здраджаў,
Што часта родную зямлю
І цалаваў, і абдымаў.

Я цалаваў яе, калі
Збіраў-вязаў калоссе ў сноп;
Я абдымаў яе, калі
Свінцовы град мой сек акоп.

Як без цябе, так без яе,
Мая любоў, зямля мая,
Свайго быцця і небыцця
І сёння не ўяўляю я.

* * *

Можа, і я
Спакусіўся б, як іншыя,
Жыць
У бога за пазухай,
Каб не было на свеце
Тваёй —
Больш спакуслівай
І бліжэйшай.

## Камета Галея

У сувязі са з'яўленнем
Каметы Галея
Чамусьці ўсе астраномы,
Астролагі, варажбіты
Паднялі несусветны
Ґармідар,
Быццам гэта важней,
Як з'яўленне тваё
На маім небасхіле.

## На мятле

Амаль да ўсіх
Рамантычных герояў
Іх каханыя з'яўляліся
То на крылах Амура,
То на павевах Эола,
То на хвалях марскіх.

А ты, помню,
На маё здзіўленне:
— Адкуль узялася! —
Адказала:
— Не бачыш?
Прыляцела на мятле.

Я адразу здагадаўся,
Хто ты,
Але, будучы не з палахлівых,
Пачаў памагаць
Табе двор замятаць
Да свята,
А потым хадзіць па ваду,
Восенню збіраць
Яблыкі ў садзе,
Зімой вуснамі грэць
Твае змерзлыя рукі.
І, нарэшце,
Ладзіць калыску.

## Творчыя мукі

Дзень прачынаецца звычайна:
Унукі пачынаюць гарцы,
Бурліць, пасвіствае чайнік,
І бульбу ты дзярэш на тарцы.
Гуляе ў печы жар пякельны,
А на распаленай патэльні
Сняданне весела скварэцца —
Ужо за стол завеш ахвочых,
А я злую, што не ўдаецца
Каторы дзень мне верш закончыць,
Як твае дранікі, крамянай
Пуэнтаю нечаканай.

* * *

Вядома, адразу
Расстацца з табой немагчыма.
Сягоння спрабую
Пусціць перапіску ўсю з дымам,

А заўтра хіба што
Дэтранізаваць тваё фота,
Ну, а паслязаўтра
Забыць тваіх вуснаў спякоту.

І з дому падацца
Да нейкага дальняга краю...
Ну, а што далей мне рабіць?
Падкажы, бо не знаю,

Калі на мяне там
Абрушацца горнай лавінай
Туга па табе,
І сны пра цябе, і ўспаміны.

## І чаго

— І чаго ты паўзеш
За парог,
На дварышча,
На вуліцу?

— І чаго ты лезеш
На плот
За пеўнем,
За вераб'ямі?

— І чаго ты цягнешся
Да агню, да сонца?

— І чаго ты бяжыш
За рэхам песні?

Крычаць,
Бурчаць, галёкаюць
Старэйшыя на малога,
Забыўшыся,
Што ў жыцці
Усе самыя цікавыя адкрыцці —
За межамі
Забароненага.

## Скрыпач

Як ён яе мілуе,
Аберагае,
Як ён яе захінае
Заўсёды
Ад непагоды,
Ад ліхалеццця.
Як закахана да сэрца
Прытуляе яе!
Знаць, таму ў яго
Скрыпка
Так чула пяе.

## Лячэбная гімнастыка

Прапісалі мне
Лячэбную гімнастыку.
Але паколькі
Ў маім мужыцкім родзе
Ніхто і ніколі попусту
Не махаў рукамі,
Не сягаў нагамі,
Не круціў ні галавой,
Ні языком,—
Пайшоў на дрывотню
Біць дровы.

Потым урач гаварыў:
— Ну, бачыце, як памагла
Лячэбная гімнастыка.

## Задача для ўнукаў

У маім лесе амаль
Восемдзесят дрэў-гадоў.
На кожным дрэве —
Па дванаццаць сукоў.
На суку — прыблізна
Па чатыры галінкі.
Калі прылятае вырай,
На кожнай
Галінцы ізноў
Распускаецца
Па сем лісткоў.
Колькі ж усіх
Лісткоў або дзён
Мае гэты
Лясны парасон?

## У акуліста

Чакаючы ў прыёмнай
Акуліста,
Чытаю пра розныя хваробы,
Якія пагражаюць чалавеку,
І як ад іх ратавацца.
І дзіўлюся, што забылі
Пра самую небяспечную хваробу —
Пра слепату
Ад славы ці ўлады.
Можа, таму, што яна амаль
Не паддаецца лячэнню.

* * *

Можа, я такі няўжыўчывы,
Што не знаю ніводнага дня,
Каб не спрачаўся:
То з дажджом,
Які ідзе неўпапад,
То з ветрам,
Які вее не з той стараны,
То з дарогай,
Якая пятляе загадкі,
То з часам,
Які часта спяшаецца
Або марудзіць,
Абнадзейвае або засмучае.

А найбольш мяне непакоіць,
Што ўсё часцей пачынаю спрачацца
І з самім сабой.

* * *

Не знаю, ці мне даравалі
Бацькоўскай хаціны вуглы,
Што я іх пакінуў
І ў прочкі за песняй пайшоў.

Бо, помню, апошнімі
Матчыны словы былі:
«Нашто выпраўляла я
Некалі ў людзі цябе?

І сёння, ў цяжкую
Хвіліну жыцця,
Ты быў бы, мой сынку,
Пры мне».

## Падслуханае

— Добра, што ты, ўнучачка,
Стараешся памагчы мне,
Калі палю ў печы,
Замятаю хату,
Уцягваю нітку ў іголку,
Мяшу цеста на хлеб,
Палю грады,
Капаю бульбу,
Шаткую капусту,
Мыю кашулю,
Вяжу табе рукавічкі,
Часамі плачу,
Часамі спяваю.

Ты ўжо — вучоная.
Буквар чытаеш.
І, можа, нічога з таго,
Што раблю,
Табе не спатрэбіцца.
І дай бог!
Не ўсё гэта рабіць,
Але ўсё гэта ўмець.

## Прыкметы

Аджываюць век свой
Даўнія прыкметы,
Хоць некаторыя
Маглі б яшчэ прыдацца.

Добра,
Што правялі ў сяле
Водаправод.

Але ўжо
З пустымі
Ці поўнымі вёдрамі
Ніхто на вуліцы
Не папярэдзіць,
Які цябе чакае дзень.

І рэдка калі заяц
Перабяжыць дарогу
І знак падасць:
Вяртайся лепш дамоў.

Паменела
Сарок-вяшчунняў.

І ўжо не ведаеш:
Чакаць ці не чакаць
Гасцей.

А як не стала
Бабкі Антаніны,

Хоць грамацеяў шмат,
Ніхто не ўмее, як яна,
Сон разгадаць,
Дакладна
Прадказаць надвор'е.

## З непакоем думаю

З непакоем думаю
Аб тым, што з гадамі
Расце мая
Запазычанасць,
Бо хутка ж могуць
Загрукаць у дзверы
Мае крэдыторы,
Вятры і дрэвы,
Звяры і птушкі,
Зямля і зоры.

А так хацелася б
З усімі разлічыцца
І не абцяжарыць
Сваімі даўгамі
Нашчадкаў.

* * *

Шмат ёсць пахаў-духоў.
І ўсё ж ім не зраўняцца
З пахам весніх палёў,
Лугавін-сенажацяў,
Ягаднікаў, імхоў,
Ап'яняючай хвоі,
Бліскавічных дажджоў,
Хлеба і сырадою.
Гэты пах увайшоў
Назаўжды, як замова,
Ў маё сэрца і ў кроў
Беларускага слова.

# Вавілонская вежа

Мы — нашчадкі тых
Каменячосаў, дойлідаў
І летуценнікаў,
Што будавалі
Вавілонскую вежу,
Каб дасягнуць
Да вышыні нябёс,
Да вышыні
Палёту сваіх мар.
Ды, перапалоханы
За свой далейшы лёс,
Ягве ім перашкодзіў.

Але план
Гэтай вежы захаваўся.
Толькі ўчытайцеся
Ў Камуністычны Маніфест.
І гэту вежу мы
Пабудаваць павінны.

## Гартаючы каляндар

Ва ўсіх календарах
Вызначаецца сонцу,
Калі яму
Ўставаць і заходзіць,
Гуляць з месяцам
У жмуркі,
Калі звінець жаўруком,
Каласіцца,
Лістападзіць,
Ледзянець.
І хоць пакуль што
Дакладна ў свой час
Наша сонца
Ўстае і заходзіць,
Чамусьці ўсё больш
Непакоюся:
Хаця ж бы ніхто
Не парушыў
Спрадвечнага
Гэтага календара.

## Перад перапісам насельніцтва

«Яны — не загінулі...»
«Яны — заўсёды з намі...»
Яны — жывуць
У назвах вуліц,
Пасёлкаў, гарадоў,
У Вечных агнях,
У нястомных нашых чаканнях
Іх звароту,
У імёнах іх нашчадкаў.

І таму
Да колькасці насельніцтва
Нашай краіны
Ніколі не забывайце
Дадаваць і іх —
Дваццаць мільёнаў.

* * *

Здарожыўся, ля студні
Выціраю твар
І неспадзявана адчуваю,
Быццам нехта
Чулай, шорсткай далоняй
Здымае з мяне стому.
Цяжар пеlражытых гадоў.
Але ж няма нікога.
Няўжо гэта — матчын ручнік?
І са здзіўленнем бачу,
Як на ім праяўляецца
Самы святы
І нерукатворны яе вобраз.

## Таполя

У прысадах нашых дрэў
Хіба найболей
Гаманлівая, цікавая —
Таполя.

Каб пабачыць першай,
Што за вёскай, гаем,
Сенажацямі, палямі,
Небакраем,

Абганяючы сябровак,
Яна рвецца
Сваё вецце
Пад аблокі распасцерці.

На ёй люба адпачыць
Сіваваронцы.
Дзятлу, сойцы,
Крумкачу і нават сонцу.

А прыстаўшы, пад ёй
Ранняю часінай
Люба слухаць
Тапалёвыя навіны.

Над чыёю страхой
Пах бульбяны клубіцца,
Хто касой звініць,
Хто едзе па гасцінцы.

* * *

Прасіў: не шкадуй напачатку,
Дарога, крамністых пагоркаў,
Завеяў, дажджоў, навальніцаў
І дыму ад вогнішч прагорклых,
Слупоў верставых незлічоных,
Прыстанішч цяжкіх і далёкіх,
Каб, на заканчэнні вандроўкі,
Здалася прывычнай і лёгкай.
І хай ніхто не спачувае
Мне ў розных нягодах бясконцых.
Інакш я не мог бы ніколі
Дайсці да цябе, маё сонца.

* * *

Як позна зразумеў,
Што на зямлі бацькоў
Няма бязумных дрэў,
Маўклівых валуноў,

Негаваркіх дарог,
Нязвонячых крыніц...
Не столькі б песень мог,
Сябры, вам падарыць,

Вам і хаціне той
Лапцюжнага сяла,
Што некалі маёй
Калыскаю была.

## Багрым

У кузні крошынскай — гром, дым.
Куе ў ёй люстру-цуд Багрым,

Якая перад алтаром
Змрок будзе рассяваць святлом,

Каб лепш падслепаваты бог
Людскую крыўду бачыць мог.

Калі ж і пры святле яе
Не ўбачыць на яго спіне

Сляды шпіцруцін, ад якіх
І сёння аж займае дых,

Або гнеў не абрушыць свой
На царскіх катаў з іх ардой,

На прыгнятальнікаў-паноў,
Што здзекуюцца з мужыкоў,—

Тады Багрым аж да канца
Свайго праклятага жыцця

Сякеры толькі будзе куць,
Якія путы рассякуць.

І будзе песні зноў складаць
І клікаць волю здабываць...

У кузні крошынскай — гром, дым,
Вы чуеце? Куе Багрым!

## Парою паўночнай

Калі Камароўскага рынку
Дух-бубен грымець заціхае,
Спыняюць хаду мурашы
Гарадскія — трамваі,
Таксі і аўтобусы,
А на пляцы, камяніцы
Сузор'е начных ліхтароў
Мігатлівых лажыцца,—
Прысеўшы на камні
Пасля ўсіх вандровак-паходаў,
Парою паўночнаю
Слухае Колас заўсёды
Сваіх, з Наднямоння,
Знаёмых бяроз шаптанне,
А з іх гаманою
Сымонавай скрыпкі гучанне.
І мо ад спрадвечнай
Чаруючай музыкі гэтай
Палае суквецце букетаў
Зімою і летам,
І кожны прахожы —
З далёкага, з блізкага краю —
У такую часіну
Ля помніка крокі сцішае.

## На археалагічнай разведцы

Старажытны курган,
У якім могуць быць:
Зброя, прылады працы,
Ці жменька зярнят,
Ці легенда.
Слухай, дружа,
Мо лепш хай курган гэты
Аберагае далей свае скарбы
Да часу,
Калі больш не будзе
Пагрозы вайны,
Што не раз спапяляла
Мінуўшчыну нашай зямлі.

## Восенню

Разбойны нерасвіст
Пранізлівых вятроў.
Ляціць апошні ліст
Шукаць сваіх сяброў.

— Чакай! — яму крычу.—
Мы разам паляцім.
Ды ён, знаць, не пачуў
За шумам ветравым.

І знік дзесь за сялом
У восеньскай імгле.
А разам нам было б
Ляцець шмат весялей.

## У фае Палаца з'ездаў

У фае Палаца з'ездаў,
Што, крышталем запалаўшы,
Адбівае ў сабе ззянне
Зор крамлёўскіх, купалоў,
Я спыніўся каля стэнда
З падарункамі ад нашых
Ад гасцей з усяго свету —
Аднадумцаў і сяброў.

Вось — сланы з равучых джунгляў,
Вось — дары зямлі і мора,
Побач — лямпачка, што ў шахце
Азарае ў цемры шлях,
Карта Афрыкі з дзівоснай
Яе фаунай і флорай
І, апалены, прабіты
У баях, свабоды сцяг.

З краю раніпняга сонца —
Лялькі ў фантастычных строях,
І, падняўшы буравесніцкія
Ветразі, фрэгат,
Вазы, кветкі і партрэты
Рэвалюцыі герояў,
І плакаты, і карціны,
Што гучаць, нібы набат.

На адной з іх — ранні золак
І глядзіць удалеч Ленін,
Правікнёна і прароча,

Як глядзеў заўсёды ён,
І бягуць на стрэчу сонцу
Дзеці ў бурным захапленні,
Як бягуць на стрэчу марам,
Светлай будучыні дзён.

І гляджу я ўслед за імі,
Покуль могуць бачыць вочы,
І шкадую, што юнацтва
Мне свайго больш не вярнуць.
Ціха снег сакавіковы
Кружыць над Чырвонай плошчай,
І свет слухае, як гулка
Ў гэты час куранты б'юць.

Б'юць куранты. Гэта значыць:
Не спяць вартавыя міру,
Над магіламі герояў —
Ззянне вечных зараніц,
І гул працы не сціхае
Ад хваль Буга да Курылаў,
І над будучыняй нашай
Песня матчына звініць.

## Гравюры Скарыны

Гравюры Скарыны!
Ён выразаў іх
На спаконвечным
Дрэве гісторыі
Свайго народа,
Хоць мог бы падабраць
І больш падатлівы,
І больш удзячны
Матэрыял.

І выразаў ён іх
Не штыхелем-разцом,
А промнем сонца.

Промнем сваёй веры
І любові да народа.

Таму штрых кожны
Быў такі глыбокі,
Што ні агонь,
Ні забыццё,
Ні ворагі,
Ні час
Гравюраў гэтых
Знішчыць
Не змаглі.

І сёння
Нейкая чароўная
Жыве ў іх сіла,

Якая сляпым
Вяртае зрок,
Глухім — іх слых,
Няпомнячым —
іх памяць,
А без'языкім — мову.

## «Сем раз адмер...»

«Сем раз адмер...»
Калі стаўлялі хату,
Кожнае бярно
Дакладна адмяралі,
Склюдавалі, пазавалі,
Падганялі,
Каб і камар нідзе
Не падтачыў свой нос.

«Сем раз адмер...»
Калі печ ставілі,
Старанна так
Выкладвалі з цэглы
Под,
Скляпенне,
Комін,
Каб жвава полымя
Ў чалесніках
Лявоніху скакала.
Аж маці
Чарпаком з вадой
Не раз яго хрысціла-суцішала...

Успамінаючы печ гэту,
Нат у завеяным акопе
Я адчуваў яе цяпло.
«Сем раз адмер...»
Забылі гэту мудрасць.
І асушаючы балотныя абшары,
О, колькі пахавалі

І крыніц і рэк
Пад чорным саванам
Тарфянікаў перагарэлых!

«Сем раз адмер...»
Не ведаю, чаму
Не пакаралі тых,
Хто, перарабляючы прыроду,
Замахнуўся
На Байкал свяшчэнны,
У Каспія Кара-Богаз украў,
Нож у спіну Севана ўбіў,
Арал здушыў арканам сухавею
І рыхтаваў труну
Паўночным рэкам.

«Сем раз адмер...»
Цяпер чарнобыльскіх
Герояў славім,
Што атамны вулкан
Сваім жыццём гасілі,
Ратуючы Зямлю.
І адначасна
Даравацъ не можам,
Што нехта там забыўся
Сем раз адмерацъ і праверыць
Кожную дэталь,
Каб наш зямны каўчэг
Не пад жалобным ветразем
У будучыню
Плыў.

## Пасля аварыі

Аварыя ў Чарнобылі...
І хоць знаю,
Што ўтаймавалі
Атамнага джына,
Што жыццё ёсць жыццё,
Толькі цяпер мне заўсёды
Ачмуральная музыка,
Розныя фестывальныя вар'яцтвы
І застольныя тосты
Здаюцца адгалоскамі балю
У часе чумы,
А травы,
Лісты на дрэвах
І вандроўныя аблокі —
Сцягамі жалобы,
Што засцямняюць вочы,
Атуляюць сэрца,
Засланяюць сонца.

# Вяршыня Кайсына Куліева

З маленства дружыла
З паэтам вяршыня Каўказа.
Любіла яна яго слухаць
Напевы і сказы.

Калі ж адлучаўся паэт
Падарожнічаць недзе,
Гасціць у сваіх незлічоных
Сяброў і суседзяў —

Вяршыня па ім сумавала,
Яго аклікала
То громам сваіх вадаспадаў,
То гулам абвалаў.

І ў знак гэтай дружбы,
Па смерці паэта, вяршыню
Сябры, землякі ахрысцілі
Вяршыняй Кайсына.

Вяршыняй, якая,
Над хмарамі ўзняўшыся, стала —
З параненым сэрцам —
Гранітным яго п'едэсталам.

## Праметэй

Каторы дзень я,
Збіўшыся з дарогі,
Ішоў па горных кручах і разлогах,
На паратунак страціўшы надзею.
І раптам знекуль голас Праметэя:
— Каго сюды нягода прывяла,
Дзе толькі чуць
Мой стогн
Ды крык арла.

А, чалавек!
Скажы, як там на доле:
Ці людзі задаволеныя доляй?
Ці згода і любоў жыве між імі?
Ці маці цешыцца дзяцьмі сваімі?
Ці дорыць шчодрая зямля дары?
Ці ў хатах мірны мой агонь гарыць?

Чаму маўчыш?
Скажы, няўжо дарма я
Тысячагоддзі ў путах паміраю.
І мой агонь,
Вам дадзены, гаротным,
Для свету стаў пагрозаю смяротнай?

Маўчыш!
Ну што ж, вяртайся на свой дол...
Зноў, бачыш,
Кружыць нада мной
Арол.

## Пракляцце

> Ад усякага пракляцця
> ёсць ратавальны сродак,
> толькі няма збавення ад
> матчыных праклццяў, о змеі.
>
> *Махабхарата*

Зноў ліхадзееў люты зброд
Сваю рыхтуе зброю,
Каб заняволіць наш народ,
Зямлю заліць крывёю.

Зноў, як і ў даўнія вякі,
Не ўсё, што мы прыдбалі,
Свае драконавы клыкі,
Адрошчаныя, скаліць.

Ужо не раз адпор далі
Мы ўсім варожым сілам,
Аб чым на нашае зямлі
Гавораць іх магілы,

Пакрытыя жарствой-пяском,
Заслужанай расплатай
І тым, што паліць зло агнём,—
Праклццем нашых матак.

І мы свой мір аберагаць
Самаадданна ўмеем,
Аб чым ніколі забываць
Не раім вам, о змеі!

* * *

Хоць усе летуценнікі,
Усе утапісты, прапаведнікі
Гаварылі
Аб райскай будучыні,
Толькі ты, маці,
Прадбачыла, якой яна
Будзе нялёгкай.

І дзякуй табе,
Што ад самай калыскі
Ты нас
Да яе рыхтавала.

## Усе беды —
## вон, вон

Спрадвеку Зямля
Сваімі травамі, лясамі, акіянамі
Усім, каму давала жыццё,
Пела калыханкі.
Пела і чалавеку,
Хоць крыўд ад яго
Найбольш зазнала.

Сёння, прыпаўшы
Да грудзей Зямлі,
Я пачуў яе глыбокую трывогу.
Не знаю,
Чым карміцельку суцешыць.
Мо старой,
Калісьці чутай песняй:
«А ўсе беды — вон, вон.
На зямельку — сон, сон...»

* * *

Ёсць на маёй Радзіме
Невычэрпныя крыніцы,
З якіх п'юць
Буслы і кнігаўкі,
Алешыны і лазнякі,
Маладзікі і зоры.

Нат у самую
Большую засуху
Я заўсёды
Да іх вяртаюся
З поўнымі вёдрамі
Песень.

## Дзівоснае здарэнне

Пачуўшы
Ад Сарокі-лепятухі,
Што перад Новым годам
Дзеці прыбіраюць ёлкі
І Дзед Мароз
Да іх прыходзе ў госці,—
Задумалі і жыхары лясныя
Наладзіць навагоднюю
Сустрэчу.

Прынеслі шустрыя Вавёркі
Са сховішчаў сваіх
Арэхаў, сушаных грыбоў.
Казулі і Ласі —
Наскубленага са стагоў
Духмянага, як лета, мурагу,
А Сойкі — гронкі арабін.
Прынеслі Дзятлы
Безліч розных шышак.
Сава ж — на самую вяршыню
Найярчэйшую
З нябёсаў зорку.

І калі гэта ўсё
Развесілі
На прыцярушаных
Снежком галінках елак,
Такі пачаўся ў лесе карнавал,
Што нават я —
Вядомы балабон тутэйшы,—

Які прысутнічаў
Пры гэтым выпадкова,
Слоў не знайду,
Каб гэта апісаць.

Адно цяпер блукаю часта
Па лясных сцяжынах
З надзеяй:
Мо пашчасціць
Мне трапіць зноў
На след
Дзівоснага здарэння.

## У тонях возера

У тонях возера
Адбіты лес шуміць,
Як той, што па-над
Берагам стаіць —
Магутны, неабдымны,
Таямнічы.
Нат бог Пярун,
Знаць, не адрозніць іх,
Бо часта яго
Вогненныя знічы
Б'юць па адбітых
Соснах вадзяных.
І мне самому
Ў гэты час здаецца,
Што човен мой
Плыве па хмарах веццю.

## З касмічнай кухні

Умела каліськці пячы куракі —
Святой памяці —
Бабка Ульяна.
І цяпер, кажуць, з зорнай мукі
Пячэ поўні,
Ветахі,
Маладзікі
І іншыя прысмакі,
На якія так ласа ўначы
У нас брэшуць
Сабакі.

## Настаўнік

На былым гумнішчы
Стаіць
Яшчэ бацькам пасаджаны
Дуб.

Не знаю,
Як мог выжыць ён,
Колькі раз яго
Гнулі вятры,
Сляпілі агнём бліскавіцы,
Секлі асколкі снарадаў,
Таптaлі яму карані
Калёсы абозаў,
Падкутыя боты
Варожых салдат.

Я заўжды перад ім
Сваю шапку здымаю,
Бо з настаўнікаў,
Што зямлю гэту
Вучылі любіць,
Толькі ён у мяне
І застаўся.

## Я помню

Я помню звычай старадаўні:
Калі каго ў сяле хавалі,
Таму любімыя прылады
Заўсёды ў дамавіну клалі.

Аратаму — яго сявенькі,
Стральцу — рог, што будзіў дубровы,
Музыку — бубен ці жалейку,
А кавалю — гвозд ці падкову.

Шаўцу — капыл ці скрутак дратвы,
А вінакуру — коўш з дубіцай,—
Каб не з пустымі ім рукамі
Перад святым Пятром з'явіцца.

Таму і мне ў час развітання
Пяро з грамніцай дайце, дзеці,
Каб напісаў я вам пра тое,
Што ўсіх чакае на тым свеце.

* * *

Усё часцей прыносіць пошта:
«Напішыце, калі ласка,
Успаміны
Пра сваіх сяброў...»

Чытаю пералік імён...
Бяруся пісаць,
Але пяро
З маіх рук выпадае.

Хай пішуць тыя,
Хто памёршымі
Іх лічыць.

* * *

Аджылі век даўнія прафесіі
Розных знахароў, варажбітоў,
Баламутаў бесталковых, песеннікаў,
Катрыншчыкаў і карчмароў.
Аднаго шкада, што назаўсёды
Можа згінуць слава тамады,
Без якога, як без хлеба з соллю,
Не ўявіць сяброўскага застолля.
Можа, лепшыя з найлепшых тостаў,
Што хлуснёй сваёй жыцця не плямяць,
Не хаваць на забыцця пагостах,
А нашчадкам перадаць на памяць.
Як, напрыклад: «Каб сто год жылося!»
«Каб над намі ззяла шчасця зорка!»
«Каб звінелі песні і калоссе!»
«Каб нікому не было ў нас горка!..»

## То буйны дождж

То буйны дождж, то грыбасей,
То крутаверць лістоты.
Буслы збіраюцца на сейм
Перад сваім адлётам.

Хто правярае крыл узмах,
Хто пругкасць ног і сілу,
Каб і ў віхурных воблаках
Ім далячынь асіліць.

І выбіраюць важака
Сваёй сям'і птушынай,
Які б надзейны падшукаў
Прытулак на чужыне,

А па вясенніх зорах зноў,
Як рэкі разліюцца,
Да гнёзд сваіх, палёў, лугоў
Ім дапамог вярнуцца.

І вось, узняўшыся, лятуць,
Знікаюць у змярканні,
І толькі доўга ў сэрцы чуць
Іх клёкат развітальны.

## Прызнацца...

Прызнацца, крыўдна,
Калі падумаеш,
Што ты толькі
На адно дзяцінства
З яго забавамі,
На адно юнацтва
З яго марамі,
На адно каханне
З яго радасцямі,
На адно кароткае жыццё
Прыйшоў на гэты свет.
І яшчэ больш крыўдна,
Што і на тым свеце
Не пабачыш
Ні сваёй рабіны
Пад акном,
Не нап'ешся вады
З дамашняй студні.
Не наведаеш свайго суседа
І не пачуеш больш
Ні ад каго:
— Дабрыдзень!

* * *

Мог бы, здаецца,
І паганарыцца
Сваімі званнямі:
Ветэран,
Дзед,
Прадзед.
Горш толькі справы
Са здароўем.
Збіраўся ўжо не раз
Пад рэштай сваіх дзён
Падводзіць рысу.
Ды сёння стрэў
Былога аднаго
Высокага кіраўніка,
Які падбадзёрыў:
— І не думайце гэта рабіць!
Вы нам яшчэ патрэбны.

## Манекены

У вітрыне
Універсальнага магазіна —
Ён і Яна,
Прычасаныя, наманікюраныя,
Напедыкюраныя,
Прыбраныя па апошняй
Замежнай модзе.
У яго ў руках — транзістар,
У яе — пудзель.
Не ведаю:
Чаму не пашлюць іх
На ўборку ўраджаю.
Кажуць — манекены.
Тым больш —
Каб не спыняліся
І не любаваліся на іх
Розныя разявакі.

## Акамянелыя волаты

Зусім не
Нейкі там
Скандынаўскі ляднік
Зямлю нашу
Сваімі валунамі
Засеяў.
Гэта — акамянелыя
Волаты спяць,
Што свой край баранілі.

Хоць бязлітасны час
Сцёр нямала імён,
Ды ў легендах і песнях
Жывуць яны ўсе:
Камяні Глеба,
Рагнеды,
Адама,
Кастуся,
Багушэвіча,
Камяні Янкі, Якуба,
Брэста,
Лудчыцкай вышыні.
Камяні. Камяні. Камяні.

## Павіншаваў
## з вясной

Павіншаваў з Вясной,
З Днём Перамогі
Сяброў.
Ды ўспомніў,
Што яшчэ мой лес застаўся,
Ледзь упрасіў знаёмага мне
Паштальёна-дзятла
Адстукаць тэлеграмы
Усім бярозам, соснам —
Маім знаёмым
Ветэранам, аднагодкам,
Якіх, на жаль,
Нямнога засталося.

Стаю і слухаю
Марзянкі перастук,
Што папанае
Ўдалечы ўспамінаў.

## Часамі

Часамі ў пакутлівых снах
Мне сніцца этапны мой шлях,
Якім я з сябрамі брыду
З цяжарам і песень, і дум.
Імгла. Нідзе — ні аганька,
Адзін толькі водбліск штыка
Ды вокліч:
— Камуна, псямаць!
Хто там яшчэ ўздумаў спяваць?!
Прачнуўся. Да позніх гадзін
Не спіцца, хоць дрэмле сяло,
Хоць цешу сябе, як Цідзін,
Што гэта даўно ўсё было.

* * *

У кожным атэстаце
Выстаўляюцца адзнакі
Па розных дысцыплінах,
І толькі няма адзнак
За чалавечнасць,
За руплівасць,
За паводзіны ў сям'і,
За сталом,
Бо і па ядзе
Меркавалі калісьці,
На што хто здатны.

* * *

Цалюткі дзень
Ідзе няспынны дождж.
Знаць, вырашыў
Нам перашкодзіць стрэцца.

Цяпер я ведаю,
Што аб наступнай стрэчы
Нам трэба
Дамаўляцца так,
Каб нават дождж
Не мог даведацца,
Падслухаць.

## Працягласць дня і ночы

Памыляюцца тыя,
Хто ўсё яшчэ верыць,
Быццам
Працягласць дня і ночы
Падпарадкуецца
Астранамічным разлікам.

І я так думаў,
Пакуль аднойчы не пачуў,
Як, вяртаючыся з поля,
Спявалі нашы дзяўчаты:
«А я дня укарачу
І да ночы прытачу...»

Божа!
Якія гэта былі дзяўчаты!
Кожная з іх
Не толькі магла
І дзень укараціць,
І ноч прадоўжыць,
Але і ашчаслівіць
На ўсё жыццё.

* * *

Гляджу на цябе
І зайздрошчу сланечніку:
Як ён,
Воч не зводзячы з сонца,
Не слепне!

## У завею

Прыйшла ты
Ў завею завеяй.
Дазволь жа
Снег паатрасаць
З грудзей тваіх,
З плеч,
              а з веек —
Пакуль не растаў —
Сцалаваць.

* * *

Вядома, што толькі
Крывога, гарбатага
Зямля можа выпрастаць.
Таму я яшчэ,
Амаль да канца
Сваіго веку дваццатага,
Як верыў, так веру
Ва ўрокі вачэй.

Хоць знаю, што смешна
Аб гэтым і гутарыць,
Зноў сёння паддаўся
Спакусе сваёй:
На фэсце цыганка
На мінікамп'ютары
Мне вываражыла
Сустрэчу з табой.

Не ведаю,
Ці варажба гэта збудзецца,
Бо столькі мінула
І летаў, і зім.
Іду і з надзеяй
На кожнае вуліцы
Цябе выглядаю
Ў натоўпе людскім.

* * *

Каб не анямела
Душа скрыпкі, кажуць,
Трэба штодзённа ёй
Плакаць, смяяцца.

Каб былі рукі
Чаго-небудзь варты,
Трэба здружыць
Назаўсёды іх з працай.

Каб сэрца сэрцам
Было чалавечым,
Трэба на ўсё яму
Умець адклікацца.

## Знакі прыпынку

Відаць,
Зямля пачала
Круціцца хутчэй.

Як звар'яцелыя,
Кудысьці спяшаюцца
Гадзіннікі.
А за імі — гады
І стагоддзі.

Усё больш і больш
Вырошчваем скараспелыя
Кармавыя культуры.

Дзеці —
Яшчэ з соскамі ў роце
Становяцца чэмпіёнамі
У спорце.

Не паспяваем мяняць
Назвы гарадоў, пасёлкаў,
А на п'едэсталах — герояў.

Спаборнічаем, хто хутчэй
Забудзе сваю мову.

Не хапае часу
Ні наведаць сяброў,
Ні ў пасланнях да іх
Парасстаўляць нават
Знакі прыпынку.

## На паляванні з фотаапаратам

Чаго толькі не пабачыш
На паляванні
З фотаапаратам!

Учора злавіў у аб'ектыў
Вавёрку,
Што, гуляючы з сонцам,
Перабірала на ляшчэвіне
Арэхі.
А потым — мурашоў,
Якія свой будан рамантавалі.
А за ім —
Дрымотныя гушчары,
У засені якіх пільнуюць чэрці
Папараці цвет
І ачмураюць маладых дзяўчат.

Сягоння крык жаўны
Неспадзявана вывеў
На запалыя
Зямлянкі партызан,
На іх, парослыя легендамі,
Сцяжыны,
На студні,
З пахам пораху і дыму.
І сёння ў іх на дне
Гаручаю слязой
Блішчыць вада,
Што наталяла смагу,
Абмывала і гаіла раны.

# Сон
# у палаце № 308

Нас разлучыла
Навальніца.
Ды, бачу, мост вясёлкавы
Ўстае.
І я на ім
Праз горы хмар,
Абвалы, вадаспады
Бягу табе насустрэчу
І не магу дабегчы.

Ты пашукай —
Калісьці быў у нас
Егіпецкі ўсёзнайка соннік —
Што б гэта прадвяшчала?
І пазвані ў маю палату
№ 308.

* * *

Помню, часта<br>
Наша маці гаварыла:<br>
«Калі хочаце дабра мне,<br>
Мае дзеці,<br>
Пажадайце,<br>
каб па вас<br>
Не галасіла<br>
I, свой бабін век пражыўшы,<br>
Лёгкай смерці».

Сёння сам перад апошнім<br>
Небакраем<br>
Яе словы сваім дзецям<br>
Паўтараю.

* * *

— Дзядуля,
Хто ў нас за мяне
Старэйшы?
— Ну, твае мама і тата.
— А хто старэйшы за іх?
— Мы з бабуляй.
— А хто самы, самы,
Самы старэйшы на свеце?
— Хіба, ўнучачка,
Хлеб і калыханка,
Што пяе твая мама:
«А-а, а-а, а-а...»

## Гліняныя пеўнікі

Калі ў магазіне цацак,
Пасля доўгага роздуму,
Я выбраў пару гліняных пеўнікаў,
Прадаўшчыца акінула мяне
Крытычным позіркам:
— А яшчэ з партфелем
І ў капелюшы.

Адкуль ёй знаць,
Што я з юнацкіх дзён
Уставаў пад спеў пеўняў,
Будзіў ката̀-гультая,
Даводзіў да злоснага
Сыкання чайнік
І пачынаў
Сваю даўнюю спрэчку
З алоўкам:
Я скажу слова —
Ён перакрэсліць,
Ён напіша —
Я забракую...
Адкуль ёй знаць
Пра маю даўнюю
Дружбу з пеўнямі?

## Камароўская хроніка

У кожным горадзе
Ёсць свае Манпарнасы,
Арбаты,
Брадвеі,
Праслаўленыя паэтамі,
Мастакамі, музыкантамі,
Турыстамі,
Піжонамі і снобамі.

Я часта
Аб гэтым думаю,
Блукаючы
Па сваёй Камароўцы,
Запоўненай рабочымі,
Студэнтамі,
Гаманлівай дзетварой,
На Камароўцы, прапахлай
Усімі прысмакамі рынка:
Слуцкімі бэрамі,
Палескімі агуркамі, памідорамі,
Цыбуляй і часнаком,
Набраклымі сонцам паўдзённым
Гранатамі,
Арбузамі,
Лімонамі,
Белавежскімі і налібоцкімі
Баравікамі
І агучанай усімі гаворкамі
І дыялектамі
Нашай стамоўнай краіны.

Вясёлае месца!
Не дзіва,
Што сюды перабраўся
І Колас
Са сваімі героямі,
Пакінуўшы
Маўклівыя сцены музея
І пампезную лангбардаўскую
Каланаду Акадэміі.

Божа!
Колькі тут
Людскіх тыпаў і сцэн,
Драматычных,
Камічных,
Лірычных!

Як шкада,
Што да гэтага часу
Не знайшлося нікога,
Хто мог бы прадоўжыць
Камароўскую хроніку,
Пачатую — святой памяці —
Летапісцам
Максімам Гарэцкім!

## Мікола Нагнібеда

Дзень шарэў ад асенніх
Дажджоў і вятроў.
І тут, як цудатворац,
З'явіўся Мікола.
Абняліся.
— Вось радасць!
Як жыў, як здароў?
Выгляд — несамавіты
І сцішаны голас.

— Можа, ў нас пагасціш,
Дружа, хоць пару дзён;
Сёння мусім сустрэцца
З табой на змярканні...
Хто мог думаць або
Здагадацца, што ён
На апошняе з намі
Прыбыў расставанне?

Ён яшчэ і ў кнігарню
Збіраўся зайсці,
Перакласці збіраўся
Чыесьці расказы.
Сам не знаю, як мог
Аднаго я пусціць,
Не пайсці, як заўсёды
Хадзілі мы разам.

Бо і сёння я ўпэўнены
Ў гэтым: калі б,

Як у самыя грозныя
Дні навальніцы,
Мы з ім разам былі б,
Мы з ім разам ішлі б,
Нават смерць
Не адважылася б падступіцца.

## Як трэба піць віно

Ольдрых Мікулашка
Павучае,
Як трэба піць віно:

— Перад усім,
Налі яго ў бакал
І паглядзі,
Як іскрыцца на сонцы.

А потым
Зрабі удых
Яго пахучага букета.

А потым
Чокніся бакалам
І падымі да вуха,
Каб паслухаць
Затопленага звону гук.

А потым
Піць ужо не варта.
Няхай яго п'юць варвары.

Паэт мне прыгадаў
Знаёмага на маёй
Мядзельшчыне бацю,
Які калісьці гаварыў:

— О, прыхаджане!
Рабіце ўсё не так,
Як я раблю,
А так, як гавару.

# Ліха

— Ты вось, бачу, не верыш,
Што ліха ніколі не спіць,
А ходзіць, блукае уначы,
Пайменна людзей аклікае.

Так было і са мной,—
Успамінае старая,—
Перад самым жнівом,
Калі град выбіў жыта,
Калі ў блакаду згарэла сяло,
Калі прыйшла пахаронка...

Цяпер дакараю сябе:
Можа, каб не адазвалася
Знячэўку на голас — на воклік,
І ліха прайшло б староной.

## Красавіцкі вецер

Вы, можа, думаеце,
Што адзін на свеце
Той самы ўсіх нас
Абвявае вецер?

А ветраў — безліч
Вее неабдымных,
Вясновых, летніх,
Восеньскіх і зімніх!

Вось і сягоння —
Я аж не паверыў —
Загрукаў з іх адзін
У мае дзверы.

— Хто там?
— Адкрый!
Няўжо ты, валацуга,
Не пазнаеш свайго
Старога друга?

Я ж красавіцкі вецер!
Той, што разам
З табой ў сяле
Ўсе зведаў пералазы.

Быў валачобнікам
І механошам,
Хадзілі ў сваты
Да дзяўчат харошых,

А потым цябе ў свет
Праводзіў рана...—
І выйшаў я
На стрэчу ўсхваляваны.

Падумаць толькі:
І сябры забылі
Мяне, а ён —
Нат помніць усе былі.

## На ўзлессі

На ўзлессі,
Як адынец, адбіўшыся ад статка,—
Вялізарны вываракі корч.
Ён так пагрозліва
Карэнне-рогі ўскінуў,
Што кожны раз,
Калі ў грыбы ці ў ягады іду,
Пытаюся ў яго:
— Ці можна?

## Над адказамі малых

Неспадзявана
Трапілі ў рукі
Адказы малых
На анкету
Нейкага інстытута:
Каго лічыце старым?

Адзін адказаў:
— Таго, хто цэлы дзень
Сядзіць ля тэлевізара,
Не ходзіць на працу
І дзецям
раскааввае байкі.

Значыць,
Я яшчэ не стары,
Бо толькі ўнукам
Расказваю байкі.

Другі адказаў:
— Гэта такі чалавек,
Які шмат пражыў,
Усё умее рабіць
І вельмі разумны.

Значыць,
Я яшчэ не стары —
Усцешыўся,—
Бо хоць век пражыў,
А розуму не нажыў.

Толькі трэці
Мяне азадачыў:
— Свет,
У якім жыве стары,
Не існуе,
А ён — у ім жыве.

## Supplicatio *

О, ўсёмагутны!
Рэдка калі дакучаў я,
Бязбожнік, табе.
А зараз прашу:
Не вяртай
Са спазненнем ніколі
Мне розум,
Вушам — слых,
Вачам — відушчасць,
Вуснам — голас.
Калі ў свой час
Не было іх са мной,
Каму яны потым
Патрэбны?

---

[1] Supplicatio *(лац.)* — просьба, мальба.

* * *

Несціхана шуміце,
Веснавыя патокі,
Раскрывайцеся, далі,
Ў свет нязнаны, шырокі!

Не спыняйцеся, ногі,
На пад'ёмах і схілах,
Углядайцеся, вочы,
Ў новыя небасхілы!

Гэту простую песню
Склаў сабе я пад сонцам,
Каб было весялей мне,
Валацугу, ў вандроўцы.

У вандроўцы па свеце,
Па далінах, узгор'ях,
Па аблоках і марах,
Па далёкіх сузор'ях.

## Гадзіннік Леніна

Узбударажыла мяне
Газетная звестка,
Што на аўкцыёне ў Кёльне
Быў некім куплены гадзіннік,
Падораны Леніным
Лібкнехту.

Я знаю,
Будуць прасіць
Дамашнія і дактары
Не рызыкаваць здароўем.
Але хай гэта будзе
І апошняю мая паездка.
Я мушу пабываць у Кёльне
І адшукаць гадзіннік гэты,
На якім вызначаны Леніным быў
Гром з «Аўроры» —
Пачатак новай эры на Зямлі
І які ўдары сэрца Лібкнехта лічыў
І сёння,
Не спыняючыся, лічыць.

## Тайная вячэра

Калісьці ў хаце дзедавай,
Над закапцелай ад лучыны
І ад сялянскіх бед
Аселай столлю,
Чырвоны кут
Свяціўся абразамі.

З гадамі,
З выветрываннем веры
У паратунак боскі
Іх, помню, станавілася
Ўсё менш і менш.

Пасля вайны
Адзін абраз застаўся —
«Тайная вячэра».

Хацелі яго
Закінуць на гарышча
Разам з бёрдамі
І калаўротам,
Старымі звычаямі,
Песнямі —
Але пашкадавала маці,
Бо некаторыя з апосталаў,
Хоць і без аўтаматаў,
Нагадвалі
Партызанаў-маркаўцаў,
Якіх яна не раз
Вячэрай тайнай частавала.

Шкада вось толькі,
Што яе самой
На вобразе няма.

## Кожны раз...

Кожны раз,
Калі я ўчытваюся
Ў адзіны
Ацалелы
Верш-запавет
Багрыма,
Я ўсё больш пераконваюся,
Што ён не мог быць
Адзіным асколкам
Яго велізарнага,
Згаслага ў цемрадзі сонца.

І калі аб гэтым
Не помняць нашчадкі,
Трэба паслухаць,
Мо нешта прыгадаюць
Тыя вілы і сякеры,
Тыя косы і калы,
Якія ён узняў
Супроць няволі,
І дапрасіць пры сведках,
Пад прысягай
Бізуны, якімі яго секлі,
Путы, ў якіх быў закуты.
Агонь,
На якім
Спапялялі яго вершы.

## Карабок запалак

У кожным карабку запалак —
З паўсотні ўспышак,
Якія, можа, азаралі
Ў дамашняй цішы
Ці безнадзейныя чаканні,
Ці стол рабочы,
Ці на спатканнях і расстаннях
Каханых вочы,
Ці грэлі некага цяпельцам
Парой бяссоннай...

О, колькі розных тэм са смеццем
Змёў дворнік сёння!

* * *

«Ніхто не забыты,
Нішто не забыта...»
Мінаюць, праносяцца
Дзесяцігоддзі,
А мы і дагэтуль —
Сяўцы, следапыты —
На перааранных
Акопах знаходзім

Парослыя травамі
Песні, паданні,
У гільзах пераржавелых
Патронаў
Крывёю напісаныя
Завяшчанні,
Забытыя ў ваенкаматах
Імёны.

О, колькі яшчэ
Пра гады штармавыя
Палаючай праўды
Нікім не адкрыта,
Каб сталі праўдзівымі
Словы святыя:
«Ніхто не забыты,
Нішто не забыта...»

## Вясной

Пачынае зелянець.
І толькі ў адным
Зацемненым зацішшы
Зайцам-беляком
Спіць, стуліўшыся,
Гурбачка снегу.

Мо разбудзіць,
Каб хто, дурненькага,
Не злавіў.

## На досвітку

На досвітку
Касцёр, перазіхацеўшы,
Перагарэўшы, засынае.
З начлегу час вяртацца.
— Ко-о-сю!

Ды як у восеньскай
Імгле паўночнай
Свайго Гнядога знойдзеш,
Хоць і чуваць
У чуйнай цішыні,

Як недзе скачуць
Спутаныя коні,
Як недзе хрумстаюць атаву.

— Ко-о-сю!
Доўга кружыш, як сляпы,
Пакуль на твары не пачуеш
Знаёмую аброшаную пысу
І фырканне:
— Ну, што галёкаеш!
Я ж — тут.

* * *

Днее.
На былым полі бітвы —
Залатыя званы
Жытніх бабак.

У чаканні,
Калі яны загудуць
Свой рэквіем,
Як багамольныя манашкі —
Вароны
Перабіраюць і перабіраюць
Ружанцы каласоў.

Пакуль ісці далей —
Прад вечнасцю і сонцам
Тут з табой прыкленчым.

## Навагодні падарунак

Пашчасціла і сёлета:
Дзед Мароз на Новы год
Не забыў падарыць
365 новых дзён і начэй мне.
Толькі нешта ніяк
Не патраплю так
Размеркаваць,
Каб хапіла іх мне
На сяўбу,
На жніво,
На сустрэчы,
Бяседы з сябрамі,
На вандроўкі па свеце,
Сусвеце.
Можа, я збіваюся з ліку?
Але хутчэй за ўсё,
Што Дзед Мароз
У дзіравым мяху
Нёс мае дні і ночы
І не ўсе іх
Праз гурбы, завеі
Данёс да мяне.

## Тутака

Тутака скрозь —
Такія стойкія камяні,
З якіх жорны
Сотні год перамалваюць
Зярняты цярпення і жыта
На хлеб.

Тутака такія жывучыя крыніцы,
Вада якіх гоіць раны,
Гасіць агонь і смагу.

Тутака такія дрэвы,
З якіх крыжы і калыскі,
Тапарышчы і зрубы хат
Пяюць.

А самае дзіўнае — людзі,
Стойкасці,
Жывучасці,
Пявучасці якіх
Зайздросцяць нават
Гэтыя камяні,
Крыніцы
І дрэвы.

## На высечанай лясной дзялянцы

Няма больш самотных магіл,
Як ціі
На высечанай лясной дзялянцы.
Ні помнікаў, ні эпітафій.
Толькі часам убачыш на іх
Дагараючыя дзеразовыя ці
Верасовыя свечкі
Ды пачуеш памінальны
Шэпт дажджу
І ападаючай лістоты.

## Запіс
## у кнізе водгукаў

«Цікавая выстаўка!
А магла б яна быць
Яшчэ цікавейшай,
Калі б на ёй было больш
Пейзажаў, якія
Незаўважанымі засталіся
За сценамі павільёна,
І больш нацюрмортаў,
Ад якіх аж гнуцца
Сталы на любым рынку.
І больш партрэтаў людзей,
Якія — на жаль —
Ніколі не маюць часу
Пазіраваць».

## Гартаючы старонкі гісторыі

Гартаючы
Апаленыя і акрываўленыя
Старонкі гісторыі,
Часта думаю:
Знаць, не трэба было
Нам, так званым
І лірнікам, і песнярам,
Галёкаць на ўвесь свет
Аб непаўторным харастве
І незлічоных скарбах
Нашай зямлі.
Можа, не знала б яна
За свой век столькі прагнай,
Праклятай навалачы.

* * *

Не баяўся я ў жыцці прысуду
Тых, што ад мяне сад бераглі,
Тых, што клікалі мяне прыблудай,
Тых, што ў путы закаваць маглі,
Тых, што лезлі з пацалункам Юды,
Лік падводзячы маім грахам.
Аднаго баюся я прысуду,
Што выносяць нашы дзеці нам.

* * *

Мяне ніколі не цікавіў
Курс нейкай валюты на свеце.
Бо ў юнацтве
За ўсё расплачваўся сінякамі,
Потым — сваімі мазалямі,
А зараз —
Самай няўстойлівай
І неразменнай манетай —
Часам.

* * *

Усё мае працяг жыцця:
Нітка — ў туга навітым клубку,
Дарога — ў імкненні за небасхіл,
Песня — ў водгаласах рэха,
Зерне — у хлебе надзённым,
Любоў — у сонечнай усмешцы дзіцяці.

Усё мае свой працяг жыцця,
Апроч няпраўды.

## Пасля ўборкі

Заўжды прашу:
                    не прыбірайце
Мой стол. Ды зноўку нехта кнігі
З часопісамі ўладкаваў,
Сцёр пыл,
                забраў чай недапіты,
Букет паставіў недарэчны,
Акуркі з попельніцы вытрас
(Сябры да раніцы дымілі),
А накіды ўсе і нататкі
З чарнавікамі маіх вершаў
Так пераблытаў, што не знаю,
Як адшукаць, састыкаваць як
З каардынатай рытмаў рыфмы
Дзень сённяшні і дзень наступны.

## Эпітафія

Кім быў нябожчык,
Не цяжка хіба здагадацца.
Бо пры жыцці яго
Толькі хваліць было можна.
А пасля смерці,
Па рымскім звычаі,
Хто будзе нябожчыка ганіць?

## Зайздрасць

— Вось пашанцавала! —
Зайздросцілі грабяні грабянцу,
Купленаму прыгажуняй.—
Такія косы будзе расчэсваць,
У такой кароне валасоў
Красавацца.

А калі наступны грэбень
Купіў лысы,
Зноў за прылаўкам
Запшукалі:
— Ну і шчасціць некаторым!
І работа, на якой
Не спацееш,
І зубоў не вышчарбіш.

## Парогі

Заўсёды былі
І, відаць, заўсёды будуць
Высокія парогі
Да славы,
Да любові,
Да шчасця.

Толькі як змірыцца
З высокімі парогамі
Да праўды
І справядлівасці?

## Восенню

Я думаў, што восень,
Усе сцежкі заслаўшы
Залатымі ручнікамі
Лістапада,
Кусты і травы прыбраўшы
Серабром павуціння
І светлякамі расы,—
Падрыхтавалася
Да нейкай незвычайнай
Урачыстасці.
А тут —
Пракульгаў толькі
Насцярожаны заяц,
Вылезшы з-пад мухамора,
Праскакала здзіўленая рапуха
І дзве ахрыплыя вароны,
Прысеўшы ў кустах,
Пачалі дзяліцца сваімі
Навінамі.

# Робаты

Сустрэў лесарубаў,
Прасіў, каб не секлі
Апошняй дубровы,
Каб пашкадавалі
Яе асвяжальнай засені,
Гаючай цішыні,
Мудрай бяседы
Бяроз і сосен,
Птушыных гнёзд
І іх песень.
Не паслухалі.
Потым я даведаўся,
Што гэта былі
Лесарубы-робаты.
З запраграмаваным
Нейкай
Пахавальнай канторай
Заданнем: «Секчы!»

## I трэба ж...

I трэба ж мне было
Ў адведзіны дамоў прыехаць
У час вясновага агляду пчол.

Зіма была цяжкой
Для дрэў, і для азімых,
I для ўсяго жывога.

Пастукалі ў лятво —
Нічога не чуваць.
Адкрылі доўж у хатку —
Пустка.
Цішыня.
Пах згашанай грамніцы.

Стаім мы з пасечнікам,
Зняўшы шапкі,
У садзе,
Які збіраецца буяць-цвісці
I які яшчэ не знае
Аб сваім сіроцтве.

## У паляўнічым палацы

Агледзеўшы
У адным з магнацкіх палацаў
Незлічоныя чучалы птушак,
А на сценах развешаныя
У фантастычных, бурштынавых
Каронах рагоў
Галовы зубраў, казуль, ласёў,
Я пашкадаваў, што ў гэтай
Паляўнічай калекцыі
Не хапае чучала
Ці хоць бы галавы
Самога іх гаспадара.

* * *

Не трэба, сцвярджаюць,
Спагады шукаць
У тых, што не хочуць
Цябе ў бядзе знаць.

І стукаць не трэба
Ў маўклівыя дзверы,
Якія замкамі
На ўсіх зубы шчэраць.

І помніць, што нат —
Ні ў сяброў, ні ў жыцці —
Ніколі не варта
Залішне гасціць.

* * *

Зараз многія
Любяць паразважаць,
Што б яны зрабілі,
Стаўшы начальнікамі,
Міністрамі,
Прэзідэнтамі.

Я вось толькі сумняваюся
Ў здольнасцях тых,
Хто ніколі не ўставаў
Да сонца,
Не вучыўся пасціць кароў,
Не ўмее растрасаць
Гной на полі,
Араць, сеяць,
Цаніць кожную крошку хлеба
І шанаваць памяць бацькоў.

## Дождж канца XX стагоддзя

«Дожджык, дожджык, секані!
Мы паедзем на кані...»

Гэта — не пра сённяшні дождж...
А таго, гарэзу, заві — не дазавешся.

Цяпер, калі набліжаецца хмара,
Хутчэй склікаем дзяцей дамоў,
Хутчэй заганяем каня ў хлеў
І самі хаваемся пад страху,
Пад якой
Каторы ўжо год
Маўчаць камарыныя скрыпкі,
Чмяліныя басэтлі,
Літаўры хрушчоў
І сумуюць гнёзды ластавак.

## Чуткі

Чуў, што недзе там
Збіраюцца паставіць
Помнік Заменгофу,
Які вынайшаў
Эсперанта.
І адначасна тыя,
Што пахавалі
Сваю мову,
Патрабуюць,
Каб і іх увекавечылі.

Не ведаю:
Якім чуткам верыць.

* * *

Калі, напасціўшыся,
Вол пакінуў луг,
Слімак, ад страху
Ачуняўшы трохі,
Знаёмаму Жуку
Хваліўся:
— Бачыў, друг,
Як я яго сваймі
Рагамі напалохаў!

* * *

Павучае старая варона:
— Калі вада — з неба,
Людзі кажуць: дождж.
Калі з зямлі —
Фантан.
— Чаму? — спытала варанё.
— Сама не разумею,
Хоць век над гэтым
Думаю.

# Экалогія

Усё часцей
Даводзіцца нам чуць:
«Тут некалі быў
Мачтавы
І шматгалосы бор...»

«Тут красаваўся луг
І меданосных,
І гаючых траў...»

«Тут возера пераліваласяa
У бліках сонца,
У мігценні зор...»
Тут...

Стаю на беразе адной
З крыштальных некалі
І паўнаводных рэк славянскіх —
Беларускай мовы.
І з болем думаю:
[illegible]
Як звузілася і абмялела
Рэчышча яе,
Як замуцілася бруя,
Якой Баян калісьці
Смагу праганяў,
Якой бацькі
Змывалі пот крывавы
І мы яшчэ
Гаілі свае раны.

Шкада, што
Са спазненнем
Сягоння каемся
І ў грудзі сябе б'ём.
Бо нават бог,
Калі б ён іспаваў,
Ці эможа
Грэшным нам
Дапамагчы.

## Вабікі

Зайшоў пеяк
У магазін паляўнічы.
Хто стрэльбу купляе,
Хто гончаму — смычу,

Хто — шрот і пыжы,
Хто — патроны і порах...
Гляджу на ўсё гэта.
І жудасны шорах

Па мне прабягае:
Тут згубай гандлююць...
— Што вам? — прадаўшчыца
Пытаецца, чую.

Хіба, на ўсе грошы,
Мне вабікаў дайце...
Прынёс іх унукам.
І зараз у хаце,
Пакуль птушкі з выраю
Папрылятаюць,
І ўзімку капэла
Звініць веснавая.

## «Трафіму» і І. Ф. Сяменнікаву

Дзякуючы гароху,
Што рос пры дарозе,
Ацалеў, нездратаваны,
Гарох у полі.

Дзякуючы дрэвам,
Што страчалі ўсе навальніцы,
Змог набрацца сіл
І дужасці падлесак.

І я, дзякуючы
Стойкасці сяброў,
Застаўся жывы.

Я гэта знаю.
Але, калі пытаўся ў іх,
Яны маўчалі,
Як маўчалі
На допытах,
І ў казематах,
І ў ссылках,
Сваім маўчаннем
Ратуючы
І адстайваючы праўду.

## Музей

Чаго толькі не пабачыш
У нашым сельскім
Музеі славы!
І першую карміцельку — саху
З яе брацепікам —
Шчацінiстым смыком,
І арсенал прылад жаночых —
Ад прасніцы — да памяла.
Вось пасталы,
Медалі,
Ордэны,
Лістоўкі, фатаграфіі
Удзельнікаў Айчыннае вайны,
Абвугленыя галавешкі
Ад спаленага ворагам сяла.
Нат Анупрэеў
З-пад мультану кісет
І крэсіва, якім —
Калі запалкі адсырэлі —
Даў прыкурыць
Бікфордаву шнуру,
Каб тол у рэйкавым канцэрце
Прабасіў.
Я бачыў за свой век
Славутых шмат музеяў,
Але чамусьці ў гэтым
Кожны раз,
Як ад Анупрэевага мультану,
Сціскае нешта горла
І набягаюць слёзы.

## Ведаеце, чаму

Ведаеце, чаму
Не спяшаючыся
І так павольна
Плыве наша рачулка
Вузлянка?

Яна, як усе жанчыны,
Любіць спыніцца
Ля кожнага масціка,
Выгана, пасёлка
І паслухаць,
Аб чым балакаюць маладзіцы,
Палошчучы бялізну,
Белячы ручнікі,
Якімі сакрэтамі
Дзеляцца, купаючыся, дзяўчаты,
Пра што пяюць калёсы
На грэблі
І што пішчыць у траве,—
Каб потым, на перакаце,
Падзяліцца сваімі навінамі
З вербамі, буслямі
І аблокамі.

Нават я часамі, слухаючы яе,
Забываю
На свой закінуты ў топі
Паплавок сонца.

## Зялёнае святло

І я за тое, каб усе захоўвалі
Правілы вулічнага руху.
За выключэннем тых,
Хто спяшаецца
На сваё першае спатканне,
І ветэранаў,
Якія часта выходзяць
На сваю апошнюю
Ў жыцці прагулку,
І маці, якая, прытуліўшы
Да грудзей малое,
Перабягае вуліцу.

Заўжды давайце ім
Зялёнае святло!

# Кубля

Відаць, нідзе няма
Такой вады,
Як у рачулцы Кублі,
Заўсёды, едучы кірмашаваць,
Наш працавік Гняды
З калёсамі ў яе ўязджаў
Аж па калодкі
І доўга піў,
Цалуючы, смакуючы яе брую,
Прапахлую мячэўнікам, аерам.
І я, не злазячы з драбін,—
З далоністых лістоў
Лілей ці лотацці —
З ім разам смагу праганяў.

Мінула шмат гадоў.
Здаецца, ўсё тут як і раней было.
Сляды падкоў, калёс.
Адлюстраваныя
У празрыстай тоні вербы.
Вось толькі сам сябе
Не пазнаю
У гэтай плыні.

## Зімні час

Зноў на зімні час
Перавялі гадзіннікі.
Мала таго, што зараз пазней
Будзе ўзыходзіць сонца,
Прачынацца тралейбусы, трамваі —
Самае галоўнае:
Цяпер на цэлую гадзіну
Будуць спазняцца
Пісьмы і тэлеграмы
Ад цябе.
І як я аб гэтым
Не падумаў раней,
Пераводзячы стрэлкі гадзінніка
На зімні час —
На час адзіноцтва!

## Каляда

Каляда! Каляда!
Лёдам сцятая вада.
Вышэй стрэх, аж да зор,
Снег узвіхрыў віхор.
На імшарыстым буі
Пераклік-выццё рукі.
І блукае спалох
На расстаях дарог.

Ой ты, дзеванька, не стой
Ля варот такой парой,
Каб цябе снег не занёс,
Чараўнік які не звёз
У завейную даль.
Каляда! Каляда!

* * *

Я атрымаў тваё пісьмо,
Але яго не раскрываю,
Бо не вярнуцца з пекла зноў
Да намі страчанага раю.

Хто вінават — дарма судзіць:
Ці я, Адам, ці ты мо, Ева.
Ці той, хто ў садзе пасадзіў
Знарок спакуслівае дрэва.

Хоць і сягоння цябе сню,
На шчасце страціўшы надзею,
Я аддаю пісьмо агню,
У якім гару і папялею.

## Часам дождж

Часам дождж, часам снег курадыміць,
Ды і з прымаразкамі — не жарты.
І ўсё ж прабліскі руні азімай,
Бачыш, зноў прабіваюцца ўпарта.

Недзе заяц у хвоі зашыўся.
Частакол абсадзілі сарокі.
Самы час, покуль спяць мурашы ўсе,
Наталіцца бярозавым сокам.

П'ём. Хоць нешта ў ім горычы многа,
Мо не тая бяроза папала.
Мо не тое вядзерца, з якога
Ў маладосці мяне частавала.

* * *

Каханне ад людзей не ўтоіш.
І ўсё ж доўга ніхто
Не здагадваўся аб нашых стрэчах,
Бо ты так умела на іх
Непрыкметна прыбегчы,
Што і весніцы не паспявалі
Са здзіўлення прарыпець,
І пыл на вуліцы ўзняцца,
І трава шалахнуцца,
І з калосся апасці раса,
Як пасля соннага подыху ветру,
Ці пралёту ластаўкі,
Ці прамільгнулай
Зоркі.

* * *

Чатыры каралі былі
У картачнай дзяржаве;
Чатыры каралі жылі
У забіяцкай славе.

За дробязі ўздымалі гам
Ды марнавалі сілы.
І часта за прыдворных дам
Мячы свае шчарбілі.

Турнір быў, помню, і калі
Я ў іх адбіў нябогу,
Дык і сягоння каралі
Мне даравць не могуць.

Калі б ні стрэліся са мной,
«Ты жыў яшчэ?» — пытаюць
І, ўзняўшы зброю нада мной,
Расправай пагражаюць.

## У ноч на Яна

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Папараць-кветку
Шукаў да рана.

Тая дзяўчына
Калоссем жыта
Зацалавана,
Расой абмыта.

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Скакаў праз вогнішча
Аж да рана.

У той дзяўчыны
Агонь кахання
Пераліваецца
Ў сэрцы ззяннем.

Ой, знаці, знаці,
Хто ў ноч на Яна
Пускаў вянок свой
Па хвалях рана.

У той дзяўчыны
Не за гарамі
Госці з вясельнымі
Скрыпачамі.

## З дарожных уражанняў

Будучы ў Накаяме,
Спакусіўся, як іншыя,
Набыць
Будзільнік,
Які, калі трэба
Прачынацца, будзіць
Спакуслівым голасам гейшы:
— Шаноўны пане!
Калі ласка, прачніцеся,
Ўставайце...

Усхапіўся.
Ніякай гейшы.
На трэцюю ноч
Запусціў у гэты гадзіннік
Падушкай.
І вырашыў:
Калі яшчэ давядзецца
Ехаць у Японію,
Захаплю з сабой
Галагуцкага
Нашага пеўня,
Які без ашуканства
Нават мёртвых
Будзіў са сну.

# Бантон

Больш за ўсё ў жыцці
Мне надакучылі
Розныя павучанні, як
Без дазволу не уваходзіць,
Усім ветліва ўсміхацца,
Не пярэчыць старэйшым,
Не сёрбаць па-мужыцку за сталом,
Не браць смажанкі пальцамі...

Ну, гэта — паўбяды.
Пастараўшыся, можна асіліць.
Але, каб не абняць цябе
У толькі што выпрасаванай
Святочнай сукенцы ў гарошкі,
Гэта — не пад мае сілы.

* * *

Ты заўсёды
Няўлоўнай была:
То веснім звонам
Паміж радасцю і смуткам,
То промнем святла
Паміж быццём і небыццём,
То рэхам
Паміж мінулым і будучым,
То жывым серабром,
Што працякае
Праз пальцы рук,
Калі цябе абдымаю.

## Падарунак

Я прынёс табе
Лёгкую, як усмешка,
Арэнбургскую хустку,
Каб праверыць,
Ці сапраўды
Яна працякае
Праз шлюбны пярсцёнак,
Я прынёс і яго.

Прашу: прымі
Сціплы мой
Падарунак.

## Дарога з сенажаці

Едзем.
Поўны сена зорны воз.
Вечар нашы вусны
Хмельныя збліжае.

Цішыня.
Чуцен пераскрып калёс.
Добра — конь дамоў
Дарогу знае.

Можна аб нязведаным пасніць,
Дасказаць, чаго недасказалі,
На грудзях тваіх пералічыць
Каралі.

## Лістападам

Нарэшце — ты! Што добрага чуваць?
Які сягоння лістапад барвовы?
Не знаю, чым цябе пачаставаць.
Купіла, бачу, парасонік новы.

І днём, і ноччу нарвы штосьці гудуць.
Такая ў свеце мітусня наўкола!
Няма ратунку ад трывожных дум.
Не захапіла часам валідолу?

Дождж радыеактыўны зачасціў —
Як ад яго планеце ратавацца?
А не магла б даўжэй ты пагасціць,
Бо сам з сабой баюся заставацца.

Баюся, што ўспамін вайны агнём
Мяне апаліць зноў і дзесь на пожні
Загрукаціць забытай міны гром.
І гэта стрэча будзе ў нас апошняй.

* * *

I камяні калісьці
Умелі гаварыць.
Толькі яны анямелі ад таго,
Што ім не ўдалося выказаць
Невыказнае.

А я ўсё яшчэ спадзяюся,
Што, можа, гэта
Ўдасца мне.

## Асіна

Доўга Юда блукаў
Паміж дрэў,
Упрошваючы іх
Даць яму забыццё.

І толькі адна асіна
Злітавалася.
Але, адчуўшы цяжар
Яго злачынства,
Цяпер дрыжыць
І дрыжыць
Усёй сваёй лістотай.

* * *

Яму выпала аднойчы
Развітацца з сонцам,
Калі бег праз калючыя засені
У атаку.

А з сябрамі —
Калі на пераклічцы
Не змог прыпомніць
Ні свайго імя,
Ні года нараджэння.

А з цэлым светам
Развітаўся,
Калі разаралі
Зарослы забыццём
Магільнік.

## У чарзе

Заўсёды, убачыўшы чаргу,
Пытаемся:
— Хто апошні?
Калісьці перада мной
Стаялі: дзед, бабка,
Бацькі,
Далёкія і блізкія сваякі,
Знаёмыя...
Не знаю,
Як так здарылася,
Што зараз
I на радаўніцы
Іх не бачу
I не маю ў каго
Запытаць:
— Хто апошні?

## Малітва за старых коней

Павялі старых коней на бойню,
Што са мной адслужылі ўсе войны,

І аралі, і баранавалі,
І бярвенне на зруб тралявалі,

І вазілі на карах, развалах,
Тых, каго адпачыць зямля звала.

Што з таго, што ёсць новая змена.
Чую водар іх поту і сена.

І з дакорам глядзяць сярод ночы
Ў маё сэрца іх сумныя вочы.

І шапчу я малітву: «Дай, божа,
Каб хоць ім у цябе было гожа,

Залячы іх старэчыя ногі,
Пакалечаныя на дарогах.

Памажы ім забыць назаўсёды
Пераҗытыя з намі нягоды».

## Вяртанне

Хоць з кожным днём
Ашукваць сябе
Становіцца цяжэй,
Мне ўсё здаецца,
Шпакоў даўнейшых
Бачу на сяўбе,
Цалуе твар
Майго юнацтва вецер.

Знаёмыя аблокі
Над зямлёй,
Знаёмыя чуваць
Раскаты грому,
Знаёмы дым
Над хатаю старой,
І толькі я
Адзін ім — незнаёмы.

Няўжо няма нікога,
З кім тут рос?
Стаю ля студні,
Спынены надзеяй:
Мо раптам
Выбяжыць з дварышча пёс,
Пазнаўшы
Валацугу-Адысея.

## У снегапад

Гэты снег мяне асіраціў,
Пагасіўшы сцюдзёнасцю ранняй
Учарашнія колеры ніў,
Жар лістоты, луж восеньскіх ззянне.

Хоць пара прывыкаць і да страт.
Адкувалі мае вёсны недзе,
А шляхі перакрыў снегапад.
Нават ты пераведаць не едзеш.

І сябры мой забылі начлег,
Хоць да змроку на шлях пагладаю,
І рыдлёўкай шуфлюючы снег,
Ад варотаў штодня адграбаю.

## Салдацкі ранец

Нахлусіў жа нейкі чорт,
Што кожны салдат
У сваім ранцы носіць
Жазло маршала.

А мы пасля боя,
Калі дрыготкімі,
Заскарузлымі пальцамі
Развязвалі свае ранцы,
Больш за ўсё шукалі:
Хто жменьку махоркі,
Хто скарынку хлеба,
Хто зачытанае пісьмо з дому —
Працяг свайго жыцця.

* * *

Звычайна, калі адпраўляўся
Ў дарогу,
Да парога
Мяне праводзіў
Наш кот Мурлыка,
Да весніц —
Нядрэмны ганчак Туба,
Да канца сяла —
Дым над комінам хаты,
І даўжэй за ўсіх —
Матчына малітва,
Якая не раз
Вяртала мяне
Нават з-за свету.

## Прапанова

Аздабляючы
Ўсе нашы плошчы і вуліцы
Скульптурамі класікаў,
Паўкласікаў
І чвэрцькласікаў
Розных сезонных
Дзеячаў і культаў,—
Трэба не забыць
І пакінуць месца
Для нашай гарэзлівай
Беларускай «Лявоніхі»,
Абцасікі якой не раз
Высякалі іскры з сэрцаў
І паляскваліі на падмостках
Сусветных фестываляў.

* * *

Я не буджу гадоў-хімераў
Бо не хацеў бы западаць
У небыццё і зноў яшчэ раз
Па волі лёсу ажываць.

Таму ніколі не дзялюся
Цяжарам тых гадоў сваіх,
Каб нехта ў спачувальнай скрусе
Не развярэдзіў ран маіх.

* * *

Па тым, што нас, паэтаў,
Не выганяюць, а нат запрашаюць
На розныя фэсты,
Урачыстасці, юбілеі,
Мяркую, паводлуг Платона,
Што мы яшчэ жывём
Не ў ідэальнай дзяржаве.

* * *

Каб цябе ўгаварыць
Пайсці са мной
Збіраць яблыкі,
Спакушаў змiем —
Не памагло,
Маліў анёлам —
Таксама.
Дык скажы:
Што рабіць?
Няўжо табе не шкада,
Што яблыкі ў садзе
Ападаюць і ападаюць?

## Як не пазайздросціць

Як не пазайздросціць лёсу паэтаў,
Якіх попусту ніхто не трывожыць,
Ніхто не шматае на цытаты,
Не распінае на крыжах успамін,
Не лезе ў дакучлівыя сваякі,
Якім у падручніках не дарысоўваюць
Вусоў, барод ці рагоў,
За вершы якіх не ставяць двоек
І якім на пагостах
Не дакучаюць ні турысты,
Ні штатныя плакальшчыцы,
Ні юбілейныя алілуйшчыкі.

## Калі не верыце

Кажуць,
Спасылаючыся на метрычную запіс —
«Аповесць мінулых гадоў»,
Нашаму Мінску
Амаль ужо дзесяць стагоддзяў.

Як жа так!
Многія з нас
Помняць дзень нараджэння яго
На пустых папялішчах.
Не верыце?
Можаце спытаць
У байцоў, партызан, муляроў,
Каменяцёсаў і цесляў,
Якія яшчэ — дзякуй богу — жывуць
І былі на яго
Шматпакутных хрысцінах.
І, нарэшце,
Спытаць у гвардзейскага танка,
Што тады салютаваў
І сягоння
Красуецца на п'едэстале.

І было гэта:
Трэцяга ліпеня,
1944-га года
Ад нараджэння Хрыста,
І не помню, якога там года
Ад стварэння
Біблейскага свету.

* * *

Хлусяць сваты на запоінах,
Хлусяць баяры і баяркі на вяселлі.
Хлусяць кумы на хрысцінах.

Адна Кастлявая не хлусіць.
Таму і сядзіць яна да пары
На ўсіх ўрачыстасцях
Не на ганаровым месцы,
А недзе на канцы стала,
Ля парога
    ці ў запечку.

* * *

Не ведаю,
Як так атрымалася,
Што я і сотай долі
Табе не расказаў таго,
Пра што хацеў.

Раніцой —
Трэба было спяшацца
На працу.

Днём —
Не было нат калі
Сцерці з твару пот.

Вечарам —
Стома валіла з ног.

Праўда,
Былі яшчэ ночы,
Але ты сама, напэўна,
Помніш,
Якія яны былі
Кароткія.

## На пагосце

Крыжы, безыменныя пліты...
Знаць, быў нейкі сэнс, каб з'явіцца,
Жыццю і зямлі пакланіцца,
Хоць потым застацца забытым.

* * *

Як гэта мы з табой
Не заўважылі,
Што ўсё больш становіцца
Мясцін,
Да якіх забыццём пазарасталі
Дарогі, сцяжыны, сляды.
А самае дзіўнае,
Што ўсё часцей
Вяртаюцца нашы пісьмы,
Не знайшоўшы сваіх адрасатаў,
Куды ж бы яны,
Не паведаміўшы
Сваіх старых сяброў,
Маглі падацца?

## Аднойчы

Аднойчы
Мы з восеньскім днём
Распалілі касцёр,
Каб пагрэцца.

Толькі вецер
Так пачаў круціць полымя,
Што не ведалі,
З якога боку
Да яго цяпла падлабуніцца.
Да слёз
Наглытаўшыся дыму,
Далей пабрылі, хукаючы ў пальцы,
Ён — на захад,
І я — за ім следам,
Бо ўдвух весялей
У змярканні блукаць
Валацугам.

# Інтэрв'ю

Вечарам,
Прысеўшы на прызбе,
Успамінаючы старыя,
Свае маладыя гады,
Акрашваючы іх
То забытым жартам,
То скупым праблістам
Далёкай усмешкі.

А потым
Доўга, доўга, доўга маўчаць.
Быццам спыніўшыся
Перад пропасцю,
І толькі, мінуўшы яе,
Памалу пачынаюць далей
Працягваць сваю гутарку
Пра сённяшнія свае клопаты
І справы.

— А чаму прапусцілі
Жахлівыя гады сталіншчыны
І гады вайны? —
Пытаецца карэспандэнт,
Узброены магнітафонам.

— А каму, сынку, ахвота
Перад ноччу
Будзіць ліха...

## Дзікі вінаград

Хіба таму
Яго празвалі Дзікім,
Што ён, без дазволу,
Любіць на каціных лапах
Лазіць па сценах дамоў
І заглядаць ва ўсе вокны,
Падстрэшшы і нават —
У квадры месяца.

## Паўночная сага

— Памажы мне, прамудры Шаман,
Зноў вярнуць супакой,
Без яго не жыць мне на свеце.

— На пяску прыбярэжным
Напішы імя той,
Што тваё загарпуніла сэрца,
І ўсе беды твае
Змые хваляў прыбой.

— А не змые?

— Ты зноў напішы.
А не змые — ты зноў напішы.

— Ты смяешся, Шаман!
І дакуль гэта мне паўтараць?

— Знаць,
Пакуль будзе дыхаць з табой
Акіян.

## Terra incognita

Часта
Мора далонямі хваль
Выплюсквае на бераг
Нябачныя водарасці,
Ствалы
І галіны дрэў
Невядомых;

Часта
Ўначы
Ў мае сны залятаюць
Дзівосныя птушкі,
Драконы,
Вятры;

Часта чую,
Як нехта мяне аклікае
На мове,
Нячутай нікім,
Незнаёмай,—

Я ўсё больш пераконваюся
Ў існаванні
Яшчэ неадкрытых краін
За мяжою сваіх
Уяўленняў.

І таму не дзівіцеся,
Калі аднойчы
Мяне не застанеце дома.

Гэта значыць:
Падаўся, дзівак,
Зноў шукаць,
Дзе тая
Terra incognita.

## У зацішнае ранне

Лесе мой пількаўскі, лесе!
Што расшумеўся ты сёння,
Быццам паведаміць нешта
Мне надзвычайнае хочаш.
Бачу па пнях, бураломах,
Вываратнях і асмалках,
Шмат і табе давялося
Тут на вяку сваім зведаць.
Толькі дамовімся, дружа,
Каб па чарзе — а не хорам —
Кожнае дрэва са мною
Думкай магло падзяліцца.
Дык як наладзіш бяседу,
Калі тут кожнаму рупіць
Нешта сказаць, пасля стольких
Нашых сустрэч, расставанняў.
І шум стаіць, як калісьці
У сваткаўскай даўняй карчомцы,
Дзе адначасна ўсе пелі
Ці на жыццё наракалі.
Чуючы нашу бяседу,
Кожны здзівіцца, напэўна:
Як гэта можа шумець так
Лес у зацішнае ранне?

* * *

> Не шукайце прадчасна любві на свеце, пакуль сама не завітае.
>
> *З. Гінчанка*

Многіх людзей на свеце
Абмінула, некім перахопленая, слава,
Або, збіўшыся з дарогі, шчасце,
Ці заздароўная чарка...
Бо нікога яшчэ не абмінулі
Ні любоў,
Ні смерць.

* * *

Вецер. Пранізлівы вецер
Злосна ў мае грудзі б'ецца,
Рве і шматае кашулю,
Глушыць мяне сваім гулам,
Кідае золкасцю ў вочы.
Збіць з ног, спыніць мяне хоча
Толькі і толькі за тое,
Што іду супроць яго я
І не ляту ўслед ніколі
Нейкім перакаці-полем.

## Рукавічка

Адна... другая прамільгнула знічка.
Бабуля ўнучцы вяжа рукавічку.

І рукавічку гэту яна вяжа
З бяссонніцы і месячнае пражы.

З дум і ўспамінаў радасных, балесных
І з цвіркуновай пазапечнай песні,

Якая толькі недзе на дасвецці,
Як звяжа рукавічку, абарвецца.

## Катанне на саначках

Самае нялёгкае было —
Дамовіцца з табой
Пайсці
На саначках катацца.

А потым —
Выбраць горку,
Ды такую,
З якой з'язджаючы,
Каб замірала сэрца,
І гурбу снежную, з якой
Нялёгка было б
Выбрацца.

## Скіфскі алень

Я быў, як і ўсе,
Упэўнены, што ведаю,
Колькі пальцаў на руцэ,
Крыл — у птушкі,
Рагоў у сахатага,
Пакуль не ўбачыў
У імклівым бегу
Залатога
З васьміпарымі рагамі
Скіфскага аленя,
Што ўцёк ад стрэл
Цара Палака
Ў засень Эрмітажа.

## Сізіф

Ніхто з багоў
Не змог прадбачыць,
Што, запаліўшы зоры,
Засяліўшы зямлю
Звярамі, птушкамі,
Людзьмі,
Закончыўшы работу,
Ім давядзецца
Адысці ў нябыт.

А пакараны імі
Вечнай працай
Нейкі там Сізіф
Усіх перажыве іх.

Вы чуеце, як з громам
Зноў коціцца з гары
Цяжкі яго валун?!

* * *

«Мэнэ! Тэкэль! Фарэс!..»
Пакуль не позна,
Хутчэй сатрыце
Фатальныя гэтыя словы,
Якія няўмольна лёс піша
На нашых сценах дамоў,
На амярцвелым твары зямлі,
На смогам зацягнутым небе!
«Мэнэ! Тэкэль! Фарэс!..»

## Роздум
## над старым гімнам

«Адвеку мы спалі...»
І каму такое
Магло ўзбрысці ў галаву?!

Няўжо гэтаму не пярэчаць
Нашы хронікі, летапісы,
Папялішчы і шыбеніцы,
Пісагі на зямлі
І на нашых плячах?

Далей — слушна:
«Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць...»

Толькі гэта трэба было б паўтарыць
І ў нашым новым гімне,
І ва ўсіх іншых
Гімнах народаў свету.

## Залаты медаль

Думаю:
Каб не знішчылі мы
Незлічоную колькасць раслін,
Калоній птушак, звяроў,
Сваю і іх мовы,
Ці атрымалі б мы
На Міжнароднай выстаўцы
«Залаты медаль»
За нашу, цудоўна выдадзеную,
«Чырвоную кнігу»?..
А гэта — што ні кажы! —
Перакanaўча сведчыць
Аб дбаласці
Да асяроддзя,
Што нас акружае,
І аб нашай перадавой культуры.

* * *

Некалі нейкі гісторык,
Філосаф,
Разважаючы аб чалавечых
Недахопах,
Успомніўшы пра слабасць
Пяты Ахілеса,
Пра няўтольную прагнасць
Мідаса да золата,
Пра цягу Калумба
Да вар'яцкіх вандровак,
Пра захапленне Каперніка
Ззяннем зор,—
Напэўна, не абміне сказаць
І пра мой недахоп —
Пісанне вершаў.

## Боты

Чарга за новымі ботамі.
А мне здаецца,
Што толькі ў старых,
Калі яшчэ падкаваць
Абцасы,
Падбіць падноскі,
Падлатаць халявы
І наглянцаваць дзёгцем,
Я змагу калі-небудзь
Вярнуцца ў юнацтва.

Бо толькі яны
Помняць
Усе мае
Пройдзеныя дарогі.

* * *

Па тым,
Як нашы рэкі дыхаюць хвалямі,
Лясы — лістотай,
Палі — каласамі,
Хмары — громам,
А людзі — роднымі песнямі,
Пазнаеш,
Як ім жывецца.

# Просьба аб дараванні

Калі Чарнобыль успрынялі як агульную бяду... паўтарэнне якой будзе крушэннем веры, стратай надзеі на тое, што ў нас ёсць будучыня.

*М. Савіцкі*

Амаль кожнага
Ў апошнюю дарогу
Праводзяць
Няўцешныя сваякі,
Зажураныя сябры,
Спачувальныя суседзі.

У залежнасці
Ад рангу памершага
З ім развітваюцца
То са слязамі,
То з прамовамі,
То з салютам,
Нават калі
Хавалі Камара,
Які, зваліўшыся з дуба,
Забіўся.
На паніхідзе лясны хор
Спяваў рэквіем:
«Ой, у лесе, ў гушчары...»
А вось
Калі хавалі
Забітую Чарнобылем Зямлю,
Былі толькі далакопы,

Бульдозеры
І вянкі з калючага дроту,
Якія ўсклалі моўчкі
На магільны камень
З надпісам:
«Небяспечная зона».
Каб не прыйшоў хто
І на радаўніцу
Зацепліць свечку,
Памаліцца за пакутніцу,
Птушыную асірацелую сям'ю
Пачаставаць.

Даруй нам, грэшным
І неразумным,
Маці!

## Сухастоіна

Чуецца скрып,
Быццам нехта недзе
На непадмазаных
Калёсах едзе,
Ці на мыліцах кульгае.
Можа, трэба памагчы
Каму выбрацца з гаю?
Прыслухоўваюся
І бачу:
Во яна —
Віноўніца трывогі —
Сухастоіна.
Аб чым яна жаліцца
Сваім сёстрам хваёвым
На незразумелай
Ім мове?

* * *

Калі апаў першы ліст на зямлю,
Я падумаў: сарваў яго вецер.

Калі апаў другі ліст на маю далонь,
Я падумаў: мо захацеў пагрэцца.

Калі ж апаў трэці ліст на сэрца,
Я зразумеў: набліжаецца восень.

# Прызнанне варвара

Ты крыўдзішся
За мае моцныя
Абдымкі, пацалункі.

Прызнаюся
Ў варварстве сваім,
Бо я — з тых мужыкоў,
Якія — можа, чула? —
Толькі рукам
Сваім верацъ
І з адлегласці
Не ўмеюць захапляцца.

* * *

Знаць, недарма вучыўся ў паляўнічых
Разблытваць-чытаць любой парой
Сляды лесавікоў, вужоў, цяклічын
І стойбішчы любімыя руёй.

Таму і сёння я беспамылкова
Па ледзь прыкметных петлях і слядах
Зачараваныя знаходжу словы,
Што адкрываюць мне ў сезамы шлях.

* * *

Ты кажаш, не помніш якой
Была ў маладосці сваёй.

Магу прыгадаць, што была
У жыцці маім промнем святла.

Была найдзіўнейшаю з яў,
Калі я цябе мілаваў,

І найпрыгажэйшай з усіх
У шчаснай чароўнасці міг.

Калі над калыскай твой спеў
Парой вечаровай гучэў.

* * *

Наверыў быў, што некалі ты ў сне
З'явілася неспадзявана мне.

Але я помню, як у прысак траў
Пад навальнічнай завірухай паў.

І дотык чулых тваіх рук святых,
Якімі рвала хустку на бінты.

І чую твайго голасу павеў:
— Ну, да вяселля рана зажыве.

Вярнуць бы трэба падарунак твой.
Ды дзе той адрас пошты палявой?

## Песня

Лес часамі
Загараецца ад перуна,
Любоў — ад мімалётнага позірку,
Сляза — ад болю...
І толькі песня,
Як алімпійская паходня,
Загараецца ад сонца —
Ад сонца ў сэрцы.

## На дзяды

Перад дзесятай стравай, раптам
Нясуць яшчэ гароху латку,
Каб камары парою летняй
Не дакучалі нам, падлеткам.
І мы даўжэй за ўсіх, пад поўнач,
Ім частаваліся.
                                Ты помніш,
Пакуль на дне гарачай латцы
Не абняліся нашы пальцы
І цябе маці не пазвала,
Каб спаць ішла — пара настала.
Пара, бо ўжо ў паўночны шэрань
Дзяды прыходзілі вячэраць.

На вуліцы сабакі брэшуць,
І нехта шашкае ў падстрэшшы,
Нібыта снег з ног абівае.
Прымай іх, матухна святая,
Не крыўдзяцца хай, небаракі,
На нашы сціплыя прысмакі...
У светачы лучына тлее.
Ноч. За акном шуміць завея.

## Месячнай ноччу

Зноў месячная ноч.
Яе чакалі
Ў квецені сады,
Салаўі.
А я чаго на яе чакаў?
Здаецца, ўспомніў,
Каб у цябе спытаць,
Хто з нас больш вінаваты:
Ці ты, стварыўшы свет,
Ці я, не змогшы
Яго ўратаваць?

## Апакаліпсісны

За першай сарванай пячаткай
Я ўбачыў трагедый пачатак.

Навошта ж мяне спакусіла
Змяінай цікавасці сіла,

Сарваць па чарзе аж да сёмай,
Нікому яшчэ невядомай?

А зараз стаю нерашуча
Прад будучыняй немінучай.

* * *

Калі там нейкі Бельзебуб
Пачне, раскрыўшы свой гросбух,
Шукаць мне адпаведнай кары
За ўсе мае грахі і мары,
За ўсе вар'яцкія надзеі,—
Скажу:
— Шукаеш ты дарма.
Ў цябе такіх пакут няма,
Якімі б не караў сябе я.
Што твой смуродлівы агонь!
Глядзі!
Яшчэ я да яго
У сэрцы перуны насіў,
І покуль стану зноў зямлёй,
Я песняй роднаю сваёй
Дашчэнту вусны спапяліў.

## Хадзіла мая бабка

Хадзіла мая бабка
По светлых мясцінах,
Прасіла ў бога хлеба,
Прыплоду скаціне,
Шчасця і здароўя
Неразумным дзецям,
Згараваным людцам
На ўсім белым свеце.
Знаць, ёй сёе-тое
Выпрасіць ўдалося.
А пра што забыла —
Так і засталося.
Так і засталося
Ў забыцці суровым,
Як крыж на пагосце
Ці як наша мова.
А пайсці прасіць зноў
Грэшнікам убогім —
З нас ніхто не знае
Бабінай дарогі.

# Час

Нарэшце завітаў да нас
Чаканага вяртання час.

Вяртання з зім — вясны вятроў,
З блукання — вырai дамоў,

З маўчання — мовы да нямых,
З выгнання — праўды да жывых,

З нябачнасці — да віднаты
З пякельных брам — ахвяр святых.

Прымі ж хлеб-соль з маёй рукі,
Час, блаславёны на вякі.

* * *

Каб лягчэй было ў дарозе,
Трэба на ўсіх указальніках
Замест кіламетраў
Напісаць:
«Ідзіце!
Не аглядайцеся,
Бо жыццё яшчэ —
Перад вамі».



## Змест

**Танк М.**

Т18 Збор калосся: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 302 с.

ISBN 5-340-00208-X.

Танк М. Сбор колосьев: Стихи.

Чыстае фальклорнае гучанне, зварот да вытокаў народнай мудрасці, стылёвая дасканаласць з'яднаны ў творчасці народнага паэта Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы Максіма Танка з разуменнем паэзіі як найвышэйшай праявы грамадзянскасці.

Т $\frac{4702120202-127}{М\ 302(03)-89}$ 64—89

ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

**МАКСИМ ТАНК**

(Скурко Евгений Иванович)

**Сбор колосьев**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**МАКСІМ ТАНК**

**(Скурко Яўген Іванавіч)**

**Збор калосся**

**Вершы**

Рэдактар Хв. Д. Жычка. Афармленне мастака В. П. Масцерава. Малюнкі мастака Ю. К. Зайцава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. П. Бялова.

**ІБ № 3046**

Здадзена ў набор 17.01.89. Падп. да друку 10.05.89. АТ 06783. Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Ум. друк. арк. 11,12. Ум. фарб.-адб. 11,27. Ул.-выд. арк. 7,50. Тыраж 9000 экз. Зак. 2186. Цана 95 к.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**

**Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**